

Мікола Нестаровіч→3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714



Каля вытокаў Нурчыка→9

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 05 (3116) Год LXI Беласток, 31 студзеня 2016 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)






# Гвязда і калядка

Трыццаць тры групы з Беласточчыны выступілі ў час сёлетняга сямнаццатага агляду «Гвязда і калядка», арганізаванага Беларускім грамадска-культурным таварыствам у Гарнізонным клубе ў Беластоку. Асаблівыя эмоцыі выклікалі выступленні дзяцей. Зала ледзь змяшчала гледачоў, якія з хваляваннем услухоўваліся ў традыцыйныя і навейшыя калядкі, выконваныя на старажытнацаркоўнаславянскай мове, на дыялектах беларускай мовы, але і адной з фрагментамі па-сербску. Гледачы падпявалі разам з выканаўцамі, многія з якіх з'явіліся на сцэне з рухомымі, каляровымі і часта асабіста зробленымі гвяздамі побач імпазантнай ёлкі, мігатлівай ад каляровых шароў.

Васіль Сегень, віцэ-старшыня БГКТ, спасылаючыся на чарговы выпуск агляду, які адкрывае сёлетні цыкл культурных мерапрыемстваў Таварыства, сказаў «Ніве»:

— Вядома, калядаванне на сцэне з'яўляецца крыху штучным. Вядома, што ў адпаведнасці з традыцыяй, яно ўключае ў сябе пераход ад хаты да хаты, з віншаваннямі і жаданнямі дабрабыту і здароўя для гаспадароў у новым годзе. Традыцыя калядавання выводзіцца яшчэ з дахрысціянскіх часоў, калі яна тычылася звычаяў звязаных з ураджаем, каб быў добры ўраджай у наступным годзе і гаспадары жылі ў дастатку. Мэтай нашага мерапрыемства з'яўляецца захаванне традыцыі калядавання і паказанне, што яна існуе. Сёння не кожны можа ўдзельнічаць у яго традыцыйным вымярэнні. Такім чынам магчымасць пачуць калядкі на сцэне з'яўляецца заменнікам асабістага ўдзелу многіх з нас у вельмі прыемных звычаях.

Таксама дадаў:

— З таго, што я ведаю пра калядкі, у параўнанні з уласным вопытам, скажам з дзяцінства, то наша беларуская меншасць уводзіць у гэты звычай чыста беларускія калядкі. Гаворка, галоўным чынам, пра мову. У дзяцінстве спявалі ў асноўным калядкі на старажытнацаркоўнаславянскай мове. Яны былі мадыфікаваны пад дыялекты, на якіх выконваліся калядкі. Яны дадаюць ім каларыту. Беларуская літаратурная мова, калі справа ў калядках, для большасці з нас на Беласточчыне гэта мова звонку. Таксама мы рады, што на нашым аглядзе бачны выканаўцы ўсіх узростаў.

Сярод калядоўшчыкаў на сцэне было чатырнаццаць дзяцей чацвёртага, пятага і шостага класаў Пачатковай школы ў Гарадку, сабраных у калектыве «Арт-Гарадок Шкаляры», падрыхтаваных Генадзем Шэметам, які яшчэ да выступлення сказаў у размове з намі:

— Адна з дзвюх калядак, якія мы падрыхтавалі на агляд, гэта сербская калядка. Я пераклаў яе на беларускую мову. Дзеці спяваюць яе трохі па-беларуску і па-сербску. Я зладзіў яе ў сваё вуха. Гэта нешта новае ў сёлетнім аглядзе, а ў цэлым гэта славянскі свет, і, такім чынам, сербы і беларусы павінны жыць у сяброўстве. Мы павінны ўзаемна дзяліцца сваёй культурай.

Гарадоцкія дзяўчаты з гэтай групы былі згодныя:

— Калядкі спяваем, каб падкрэсліць урачысты характар Раждзества, каб яго прыгажэй перажыць.

— Мы па хатах не калядуем, але ў Гарадку і ў ваколіцы да дамоў калядннікі прыходзяць кожны год. У мяне ў гэтым годзе былі дзве жанчыны, у тым ліку адна з Беларусі.

— І ў мяне была з калядкамі моладзь з нашай школы.

Не магло не хапіць на сёлетняй «Гвяздзе і калядцы» Алы Каменскай з Козлік. Калядкі пад яе апекай прадставіла тамашняя «Рэчанька» і дзеці з прыхода Успення Багародзіцы ў Заблудаве ды Комплексу непублічных школ імя святых Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку.

— Я стараюся быць на аглядзе са сваімі калектывамі штогод. Кожны раз, калі мы знаходзім новыя калядныя песні, спампоўваем іх з інтэрнэту ці бярэм з Беларусі, адкопваем старыя. Кожны год паяўляецца больш дзіцячых ансамбляў. Мы не хадзілі ў гэтым годзе з калядкамі ад хаты да хаты, таму што для мяне ў апошні час гэта цяжка па стане здароўя, каб насіць акардэон. Але ў царкве, вядома, мы спявалі. У нас у апошнія гады з калядкамі ад хаты да хаты ходзяць у асноўным дзеці і падлеткі. Праўда, у гэтым годзе ў Козліках мабілізавалася толькі адна калядная група — наймалодшых дзяцей, але раней было так, што па тры групы хадзілі, у тым ліку моладзь старэйшага ўзросту. Гэтыя традыцыі вынеслі яны з дому, таму што іх бацькі таксама калядавалі.

Жанчыны з хору «Васілёчкі» з Бельска (23 асобы, у тым ліку спяваючая харэограф і дырыжор, які падыгрываў хору на баяне) выйшлі на сцэну не так як шматлікія выканаўцы ў традыцыйных народных касцюмах, якія звяртаюцца да сельскага жыцця, але ў новых, элегантных вячэрніх сукенках, нядаўна пашытых адмыслова для іх сцэнічных выступленняў.

Сяброўка хору Юлія Міранчук:

— Добра, што ёсць такія агляды. Дзякуючы ім можам праспяваць калядкі не толькі ў сябе дома, у сям'і, але павесяліць шматлікіх людзей, сабраных разам, каб атрымаць асалоду ад свята і калядак — песень услаўляючых нараджэнне Хрыста. Кожны год мы выступаем на аглядзе і штогод стараемся спяваць іншыя калядкі.

Альжбета Фіёнік са сваёй многапакаленнай групай «Антракт плюс» прадставіла ў ходзе агляду сцэнку з выкарыстаннем касцюмаў і рэквізітаў:

— Гэта тэатральны калектыў, таму прыехаў з тэатральнай сцэнкай. Яна распавядае, як прыходзяць калядннікі на хрэсьбіны дзіцяці. Нованароджанаму спявалі асаблівую калядку. Гэта дзіўна паказваць калядаванне на сцэне, неяк штучна. У нас ёсць вопыт спеваў калядак ад хаты да хаты і цалкам гэта інакш выглядае. Мабыць, не так добра атрымліваецца ў вакальным плане, але ў нас усё жывое: ёсць гаспадар, у калядннікаў паяўляюцца сапраўдныя ўсмешкі. Але, як відаць па аўдыторыі, гэта патрэбнае. Не ўсе калядуюць. Асабліва ў такім Беластоку цяжка сустрэць калядннікаў. Ёсць шмат людзей, якія хочуць паслухаць калядкі ўжывую, хай бы і са сцэны.

Спадарыня Вера, ураджэнка Палічнай, якая жыве ў Беластоку, а раней пятнаццаць гадоў была ў Бруселі:

— Я прыйшла паслухаць, але і паспяваць разам. У доме падчас святаў з дачкой мы спяваем калядкі, але гэта не тое ж самае як тут, разам з многімі нашымі людзьмі. Калі яшчэ жыла я ў Палічнай, усе ведалі калядкі на памяць. У цяперашні час у блоку, дзе я жыву, я адна праваслаўная і ніхто з калядкай да мне не прыходзіць. А напярэдадні нашага Новага года ў нас нават святло выключылі!

Айцец Пётр Пяткевіч з Усясвяцкага прыхода ў Беластоку:

— Спяванне калядак гэта наша шматвяковая традыцыя. Спявалі іх нашы бабулі і дзядулі, бацькі і маці. Зараз і мы вучым дзяцей. Гэта наша перажыванне радасці ад нараджэння Хрыста, якое мы падзяляем, спяваючы калядкі, хадзіўшы ад хаты да хаты, такім чынам услаўляючы Яго. Калядаванне гэта такі просты спосаб, каб выказаць духоўную ісціну аб нараджэнні Хрыста, якую ўсе суперажываем. Выказваем нашу веру, традыцыі, культуру. Гэта вельмі радасна, што традыцыя жывая і пастаянна адраджаецца ў наступных пакаленнях. Не прападае на Беласточчыне. Гэта няпраўда, як некаторыя нядаўна заяўлялі, што міне некалькі гадоў і яна прападзе. Надалей шмат калядннікаў можна сустрэць, едучы праз нашы вёскі ў бок Гайнаўкі і Бельска-Падляшскага. І гэта вельмі радуе.

Аб унікальнасці калядак распавяла «Ніве» ў час агляду Аліна Негярэвіч, якая займаецца мужчынскім ансамблем «Куранты» з Бельска-Падляшскага і хорам «Рэха пушчы» Гайнаўскага дома культуры. Яна на адкрыцці мерапрыемства традыцыйна дырыжыравала ўсімі ўдзельнікамі падчас выканання калядкі «Неба і зямля»:

— Калі бачу хадзіўшыя калядныя групы, рэдка можна прыкмеціць у іх святочную радасць. Калі калядуе, напрыклад, група хлопцаў, яны, галоўным чынам, настроены на тое, дзе і колькі магчыма накалядаваць грошай. Калісь ішлося калядаваць проста з радасцю. Многія сёння не ведаюць і не ўмеюць спяваць калядак. Добра, што ёсць такое мерапрыемства, таму што яно не дае згубіцца традыцыі праўдзівага, шчырага калядавання.

Адзначыла:

— Каталіцкая ад праваслаўных калядак тэкстам не адрозніваюцца, але ў музычным пласце бачна велізарная розніца калі справа ў мелодыі, гармоніі. Яны інакш гучаць. Двухгалосны спеў з'яўляецца натуральным спосабам для выканання гэтых песень.

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА



# Розны лёс

Якія розны лёс у людзей, у сучаснікаў, якія жывуць у адну эпоху, а выяўляюць сябе так па-рознаму. І адыходзяць у лепшы (усім хочацца ў гэта верыць) свет зусім адрозна. Вось на мінулым тыдні ва Украіне і ў Беларусі прыгадвалі герояў „Нябеснай сотні", тых патрыётаў, што загінулі на Майдане ў змаганні за вольнасць. Сярод іх і просты беларускі хлопец Міхаіл Жызнеўскі, жыццё якога лягло на алтар Праўды, Свабоды і Справядлівасці. Гэтае імя ўжо назаўсёды застанецца ў гісторыі суседніх народаў, пакуль будуць жыць Беларусь і Украіна.

Нехта гіне на барыкадах, а нехта ад эпідэміі грыпу, якая зараз лютуе на тэрыторыі той жа Украіны. І нічога з гэтым не зробіш, нічога не пралічыш, нічога не прадказаш і не даведаешся загадзя. Гэта называюць у розных культурах і разнастайных рэлігіях па-рознаму — фатум, лёс, наканаванасць, карма, планіда... Прыходзіць час, прыходзіць дзень, ляскае хвіліна — і пара, як той казаў, да Абрагама на піва ехаць. Адзін памірае ад інфаркту, другі гіне ад ран, іншы канае ад грыпу, а чацвёрты замярзае пад снегам. Снегу зараз наваліла столькі — ад Менска да Нью-Йорка, што людзі з усімі іхнымі сучаснымі тэхналогіямі не могуць даць рады прыроднай стыхіі. Ад разнастайных прыродных катаклізмаў штодзень гінуць дзясяткі, а то і соткі людзей. Снег яшчэ нічога, а вось землятрусы — сапраўдная катастрофа. Чалавецтва лятае ў космас, пабывала на Месяцы, распрацоўвае авалоданне іншымі планетамі, а вось прадказаць звычайныя землятрус ці паводку не можа.

Ды Бог з ёй, з гэтай прыродай. Праз стагоддзі людзі так і не навучыліся цаніць чужое жыццё. Часцяком становіцца яно проста таннай разменнай манетай у глабальнай палітыцы моцных, але часцей несправядлівых, гэтага свету. І міжволі кожны, хто яшчэ жыве, думае пра сутнасць і сэнс усяго нашага існавання тут.

Ушаноўваючы герояў, часта задумваешся, што многія з іх так і застануцца невядомымі. Гэта ў наш час, а што ўжо казаць пра мінулыя стагоддзі. У студзені якраз прыгадваем герояў паўстання 1863 года. І тут таксама задумваешся над розніцай лёсу. Адны загінулі як героі на полі ці лесе бою — такія як Людвік Нарбут, Юльян Бакшанскі, Вікенці Козел, Генрык Дмахоўскі, Станіслаў Сангін. Іншыя змагары, трапіўшы ў палон, павінны былі перажыць усе здзекі акупантаў, перацярпець пакуты і скласці галовы на расстрэльным месцы ці шыбеніцы — успомнім тут вялікіх патрыётаў Кастуся Каліноўскага, Зыгмунта Серакоўскага, Ігната Здановіча, Людвіка Звяждоўскага, Баляслава Калышку, Рамуальда Траўгута, Ігната Будзіловіча, спіс ахвяр вызвольнага паўстання можна доўжыць. А трэцяя група змагароў і годнасць не запляміла сваю, і дзіўосным чынам ацалела. Якія анёлы-ахоўнікі іх ратавалі, якая пуцяводная зорка пракладала жыццёвы шлях?.. Зыгмунт Мінейка ўцёк з Сібіры, нелегальна перабраўся праз мяжу, вызначыўся ў розных сферах і ўрэшце стаў нацыянальным героем Грэцыі. Разам з ім здзейсніў уцёкі Аляксандр Акінчыц, які пасьпяхова працаваў лекарам у Францыі. Уладзіслаў Малахоўскі эміграваў у Англію, вызначыўся там у галіне фатаграфічных вынаходніцтваў. Мастак Міхал Андрыёлі працаваў у розных краінах Еўропы, адлюстраваў і ўшанаваў паўстанне ў сваёй творчасці і пражыў яшчэ 30 гадоў пасля паўстання. А паўстанец Юзаф Каліноўскі пасля катаргі і жыцця ў Сібіры таксама пераехаў у Еўропу, стаў манахам і быў пасля смерці кананізаваны. Яшчэ адзін герой Аляксандр Лянкевіч, завочна засуджаны да смяротнай кары, збег праз аўгустоўскія лясы, пазней пераехаў у Амерыку, дзе напэўна таксама не прапаў.

Вось такі розны лёс герояў, якія ў сваёй пераважнай бальшыні ў час паўстання 1863 года былі зусім маладымі хлопцамі. Некаторыя, занадта разумныя гісторыкі, цяпер выказваюць нават думку, што дарэмным было тое паўстанне, што расейскі царскі ўрад нібыта рыхтаваў рэформы і збіраўся абвесціць ледзь не вольнасць для насельнікаў Беларусі. Але ўсё гэта прыдумкі ў цёплых кабінетах. А рэальнасць і праўда такая, што прыходзіць пара, калі людзі не могуць проста цярпець і маўчаць, падымаюцца на змаганне за вольнасць, праўду і справядлівасць. Але зямны лёс і ў іх, як бачым і ведаем, розны. Вось дзе таямніца...

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Я бачу цемру



Станіслаў Лем, пісьменнік і філосаф, яшчэ ў 1960-я гады прадказаў кірунак эвалюцыі чалавечай цывілізацыі. Было гэта інтуітыўнае паняцце абапёртае на назіранні тэндэнцый, хоць яшчэ невыразных, але прыкметных у рэальнасці. Тэндэнцыі, ці культурныя, ці грамадскія, не заўсёды маюць дастатковы патэнцыял, каб эфектыўна развівацца. Так што не ўсё, што дзеецца сёння, адпавядае футурыстычнаму бачанню, якое Лем прадставіў у рамане «Вяртанне з зорак». Тым не менш, многія з яго прадказанняў здзейсніліся — калі не літаральна, то з пэўнай доляй імавернасці. У свеце, бачаным вачыма герояў, што вярнуліся на Зямлю пасля больш чым 120-гадовага падарожжа ў прасторы, даміную... абыякавасць бяздумна шчаслівага грамадства. Абыякавасць — гарантаваная неабмежаваным спажывальніцтвам і фармакалагічнай ліквідацыяй міжвідавай агрэсіі, якая з'яўляецца эвалюцыйным наступствам фундаванага прыродай харчовага ланцуга. Можам здагадацца, што ўсё жывое стварэнне жэрла верагодна тое, што і людзі, значыць, нейкую сінтэтычную пульпу, якая ўтрымлівае інградыент знішчаючы агрэсію. І ёй прыпісваюцца эмоцыі. Сёння цяжка ўявіць сабе такі «лемаўскі» свет, дзе львы свабодна бадзяюцца па вуліцах гарадоў і вітаюць мінакоў кашэчым мурлыканнем ды лашчацца да іх ног. Немагчыма паверыць у такі свет, у якім няма гарачых каханкаў, хаця існуюць палавыя і эмацыйна абыякавыя сувязі. Таму невядомае людзям пачуццё любові, а за ёю — здрады і нянавісці. Гэты свет без агрэсіі. Здавалася б, ідэальны свет! Свет, у якім няма ані баксёрскіх баёў, ніякага саперніцтва. Нарэшце, свет, у якім абавязвае закон абсалютнай роўнасці. Няма ў ім правадыроў, няма ўрадаў. Адным словам: мурашнік!

Ці мы — людзі — сёння не мурашэем? З нованым годам у Польшчы ўступіў у сілу закон, у адпаведнасці з якім храпучым (так, так, храпучым) можна забраць, ці не выдаць вадзіцельскія правы, калі яны не паддадуцца адпаведным абследаванням або лячэнню. Кажуць, сіндром абструктыўнага апноэ сну, які з'яўляецца вынікам храпу, выклікае некантралюемую дрымотнасць, што ў выніку пагражае дарожна-транспартнымі здарэннямі. Я, на шчасце, не меў, і ніколі не стараўся мець вадзіцельскіх правоў. Але езджу на веласіпедзе, што дае мне адчуванне свабоды і незалежнасці. І люблю, калі вецер падчас язды шкуматае мае валасы на галаве. Толькі што ўжо рыхтуецца закон, які патрабуе ад веласіпедыстаў надзяваць шлемы і наколеннікі. А яшчэ ў шасцідзясятыя гады (сам памятаю) дадатковая шкарлупа на галовах матацыклістаў не патрабавалася. Не трэба было ніякіх рамянёў бяспекі ў аўтамабілях. Ані пнеўматычных падушак. Ані многіх, многіх новых правіл больш ці менш прадухільваючых негатыўнае ўздзеянне чалавечай сваволі — выказваючых няясную ў прычынах волю грамады, прымаючай на сябе адказнасць за кожную адзінку. Калісь баксёры на рынгу ці мотагоншчыкі-спідвейсты на трасе паказваліся ў большасці з валасамі на галаве. Сёння гэта забаронена законам. Гэта праўда, што ў большасці з іх не было свядомасці пра рызыку, звязаную з іх уласнай неасцярожнасцю. Але хтосьці, нарэшце, узяў на сябе адказнасць за іхняе здароўе і нават жыццё. Хтосьці безыменны, але ў імя грамады, прымае на сябе або ўзурпуе адказнасць за кожнага з нас. Кожнага паасобку. Абы хоць не ў кучы...

У кучу хоча ўзяць усіх нас Права і справядлівасць. Вядома, што яно хоча абмежаваць грамадзянскую свабоду, якая з'яўляецца неад'емнай часткай збору дэмакратычных каштоўнасцей. Я хацеў бы дадаць, што каштоўнасцей раўнацэнных, што таксама з'яўляецца інтэрпрэтацыяй ідэі дэмакратыі. Агульна кажучы, у гэтай ідэі справа ў тонкім балансе паміж правам чалавека на самавызначэнне сваіх поглядаў, перакананняў і ладу жыцця, і правам грамады, якая самаабмяжоўвае свабоду адзінкі ў імя даступных свабод выказаных свядомым волевыяўленнем большасці грамадства. Сёння ПіС называе сябе дэмакратычным прадстаўніцтвам. Толькі што не паважае асноўнай ідэі дэмакратыі, якая прадугледжвае раўнапраўнасць усіх фундаментальных для яе каштоўнасцей. Найважнейшым для яго з'яўляецца нацыя. Народ — суверэн. У дадзеным выпадку — паводле ПіС — польскі і сціснуты як кулак узведзены над больш ці менш уяўнымі ворагамі. Ключавым момантам тут з'яўляецца слова «ўяўленне». І ўсё адбываецца ва ўсё большай ідэалагічнай цемры. Я бачу цемру, я бачу цемру!

Міраслаў ГРЫКА



## Вачыма еўрапейца

# Сілезцы — меншасцю?

Падчас перадапошняй сесіі Сейма пад абмеркаванне трапіў грамадзянскі праект паправак у закон аб нацыянальных і этнічных меншасцях, падпісаны 140 тысячамі грамадзян. Уводзіць ён у Закон аб меншасцях з 2015 г. у якасці этнічнай меншасці сілезцаў — побач запісаных у ім кашубаў, цыган, караімаў і татараў. Прадстаўнік Камітэта заканадаўчай ініцыятывы Ежы Гажэлік, старшыня Руху аўтаноміі Сілезіі сваё доўгае абгрунтаванне праекта закончыў цытатай, прыводзячы словы апольскага біскупа Анджэя Чаі: «Калі сілезец хоча захаваць сваю ідэнтычнасць, калі хоча ідэнтыфікавацца са сваімі каранямі, ён можа рабіць так, адчуваючы сябе поўнасцю сілезцам. Такім чынам, цяжка патрабаваць ад яго, каб вызначаў сябе немцам або палякам».

У ходзе дэбаты ад імя клуба ПіС віцэ-старшыня парламенцкай камісіі нацыянальных і этнічных меншасцей Шымон Гіжынскі сказаў: «Аўтары праекта ўзялі на сябе нават не вельмі цяжкую задачу, але проста немагчымую для выканання: даказаць, што ёсць сілезская этнічная меншасць (...). Калі б паставіць на агульнай фатаграфіі караіма, рома, сілезца і татарына, гэта нагадала б заданне з тэсту на інтэлект для другакласнікаў, каб з чатырох відаў садавіны: фініка, манга, яблыка і маракуі вызначыць тую, якая адрозніваецца ад апошніх (...). Аўтары праекта брыдуць далей і пішуць між іншым, што ў польскім заканадаўстве этнічнай меншасцю лічыцца група польскіх грамадзян, якая ў значны спосаб адрозніваецца ад астатніх грамадзян мовай, культурай ці традыцыяй. Вось я заяўляю, як прадстаўнік гэтак званых апошніх грамадзян, што маю значнае і поўнае пачуццё еднасці з Сілезіяй і сілезцамі з пункту гледжання мовы, культуры і польскіх традыцый».

Нягледзячы на скептычнае меркаванне аб праекце, Права і справядлівасць — як гэта назваў дэпутат Гіжынскі — паважаючы права кожнага грамадзянскага камітэта да вычарпання парламенцкай працэдуры, прапанавала накіраваць праект у камісію.

Данута Петрашэўская, старшыня сеймавай камісіі па меншасцях, ад імя Грамадзянскай платформы падобна як заяўнікі пераконвала, што сілезцы выконваюць усе шэсць умоў разам, выкладзеных у законе аб меншасцях, прадстаўляючых тое, што дадзеная група з'яўляецца этнічнай меншасцю. Паводле яе, такой меншасцю лічыцца група польскіх грамадзян, якая, сярод іншага, значна адрозніваецца ад астатніх грамадзян мовай, культурай і традыцыямі і не ідэнтыфікуе сябе з нацыяй, сарганізаванай у сваёй уласнай дзяржаве. Дэпутатка нагадала, што ў адпаведнасці з апошнім перапісам насельніцтва сілезскую тоеснасць заявіла 847 тысяч чалавек. Заклікала, каб праект накіраваць на далейшую працу ў парламенцкіх камісіях.

У сваю чаргу дэпутат Тамаш Скула, прадстаўляючы пазіцыю клуба Кукіз'15 падкрэсліў, што «не хапае падстаў, каб увесці штучна і сілай створаную этнічную меншасць, званую сілезцамі, якія на самой справе з'яўляюцца палякамі» і запрапанаваў адхіліць праект у першым чытанні.

Моніка Роса ад імя клуба Сучасная заявіла аб станоўчым стаўленні да паправак: «Падтрымка сілезскай тоеснасці не з'яўляецца ніякай прывілеяй, гэта не штосьці экстраардынарнае, гэта штосьці, што тычыцца больш чым паўмільёна палякаў, якія свае карані знаходзяць у сілезскім этнасе, штосьці, што павінна было быць зроблена даўным-даўно. Сілезцы не з'яўляюцца нейкай замаскіраванай нямецкай аптацыяй, яны як найбольш відавочная польская аптацыя».

Падляшскі дэпутат Мечыслаў Башко ад імя клуба ПСЛ выступіў у рашучым тоне: «Прызнанне ў прапанаваным праекце закона за этнічную меншасць сілезцаў не з'яўляецца прымальным. На наш погляд, такія працэдуры прыводзяць да рэгіяналізацыі і аўтанамізацыі Польшчы, або нават да сітуацыі, якая нагадвае ўдзельную раздробленасць, якую мы ведаем з нашай гісторыі, і якая не дала станоўчых вынікаў для польскай дзяржаўнасці».

Падчас гарачых спрэчак дэпутат Станіслаў Пента з ПіС звярнуўся да Ежы Гажэліка, а яго заява выклікала пасля абурэнне ў сацыяльных сетках: «Такія ідэі раз'ятрываюць, яны шкодныя і непатрэбныя (...). Як Карфанты, так і Мацкевіч загадалі б страляць па вас».

Які будзе лёс гэтага праекта, акажацца на пасяджэнні Сейма, які сабраўся ў момант выхаду гэтага нумара «Нівы». Што далей з парламенцкім праектам паправак у Закон, заветаваны прэзідэнтам Анджэем Дудам і адпраўлены ім назад у Сейм — надалей невядома.

Мацей ХАЛАДОЎСКІ

# Працы Міколы Нестаровіча ў Гайнаўскім белмузеі

**Мікола Нестаровіч з Орлі — добра вядомы ў Польшчы кінааператар, фатограф, журналіст, аўтар рысункаў, які разам з Тамарай Саланевіч паказваў таксама традыцыі і незвычайнасць нашага рэгіёна. Любіцелям дакументальных фільмаў вядомыя многія дакументальныя стужкі з цікавымі месцамі на розных кантынентах свету, да якіх здымкі рабіў Мікола Нестаровіч у супрацоўніцтве з многімі рэжысёрамі. Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы ўключыў Міколу Нестаровіча, яго фатаграфіі і рысункі ў «Слоўнік беларускіх мастакоў» і выдаў адмысловы каталог.**



27 снежня дырэктар Гайнаўскага белмузея Тамаш Ціханюк і Пётр Нестаровіч адкрылі выставу, азагалоўленую «Жанчыны свету», з фатаграфіямі жанчын і з не экспанаванымі яшчэ рысункамі Міколы Нестаровіча. Сабраныя маглі таксама паглядзець фільм «Паштоўка з неба», у якім пра Міколу Нестаровіча, як звычайнага чалавека, прафесійнага кінематаграфіста і фатографа расказваюць перш за ўсё яго сябры і знаёмыя з Орлі. Рэжысёрам стужкі, знятай у 2006 годзе для Польскага тэлебачання, з'яўляецца сын Мікалая, Пётр Нестаровіч, які расказаў пра свайго бацьку і адказваў на пытанні сабраных.

— Мы хацелі ўшанаваць лепшага кінааператара нашага рэгіёна Міколу Нестаровіча, таму выдалі міні-альбом з яго фатаграфіямі і рысункамі, які ўключылі ў «Слоўнік беларускіх мастакоў». У ім змяшчаем здымкі прац і інфармацыю пра беларускіх мастакоў Беласточчыны і з-па-за нашага рэгіёна. Побач выставы «Жанчыны свету», якая ў нас прэзентавалася 10 гадоў таму, сёння паказваем раней не экспанаваныя і не публікаваныя фатаграфіі і рысункі Міколы Нестаровіча, — сказаў дырэктар Тамаш Ціханюк.

— Мой бацька перш за ўсё быў кінааператарам, які ў вольныя хвіліны фатаграфаваў. Ён не расставаўся з фотаапаратамі, увесь час браў іх з сабой. Рабіў здымкі на розных кантынентах свету, дакументаваў незвычайныя і цікавыя моманты з жыцця ў тамашніх краінах. Бацька рабіў здымкі, калі Міраслаў Гермашэўскі адлятаў у космас і вяртаўся з яго, быў прысутны падчас спаткання з бацькам сённяшняга прэзідэнта Сірыі Асада, які раней кіраваў гэтай краінай. Проста ў адпаведным часе трапляў у адпаведнае месца як карэспандэнт Польскага тэлебачання. Даехаў бацька да генерала Дудаева, а неўзабаве пасля гэтага здарэння месца знаходжання Дудаева было выкрытае, бо карыстаўся мабільнікам, і яго забілі. Бацька дабраўся таксама на сустрэчу з Індзірай Гандзі, а год пазней яе пахавалі, — распавядаў Пётр Нестаровіч.

Нарадзіўся Мікола Нестаровіч у 1941 годзе ў Орлі, а памёр у 2003 годзе. Быў шматгадовым кінааператарам Польскага тэлебачання, фотарэпарцёрам і фотамастаком. З яго ўдзелам паўстала звыш трохсот дакументальных і мастацкіх фільмаў, серыялаў і рэпартажаў. За сваю працу быў узнагароджаны некалькімі дзясяткамі ўзнагарод на польскіх і замежных фестывалях. Выканаў вельмі многа здымкаў. З дзяцінства Мікола Нестаровіч любіў рысаваць і рашыўся паступіць у Мастацкую акадэмію ў Варшаве, але беспаспяхова. Затое закончыў расійскую філалогію ў Вышэйшай педагагічнай школе ў Аполі. Там пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай Эльвірай Крушынскай, з якой меў сына Пятра. Закончыўшы вучобу ў вышэйшай навучальнай установе, працаваў настаўнікам расійскай мовы ў Чыгуначным тэхнікуме ў Шчэціне, дзе з моладдзю арганізаваў фотагурток. Пасля быў выкладчыкам расійскай мовы ў Політэхнічным інстытуце ў Варшаве. Тады стаў супрацоўнічаць з Варшаўскім тэлевізійным асяродкам. Менавіта з таго пачалася і хутка разгарнулася яго кар'ера кінааператара. Мікола Нестаровіч паспяхова закончыў вучобу ва Усесаюзным дзяржаўным інстытуце кінематаграфіі ў Маскве. З 1971 года працаваў журналістам з тэлекамерай, а з 1981 года быў аператарам вобразу Польскага тэлебачання. З камерай пабываў на ўсіх кантынентах свету. Выконваў здымкі фільмаў, якія Польскае тэлебачанне стварала ў супрацоўніцтве з замежнымі тэлеканаламі: брытанскім BBC, амерыканскім Discovery, нямецкім WDR, французскім ARTE і японскім NHK. Выконваючы здымкі фільмаў Мікола Нестаровіч супрацоўнічаў з многімі рэжысёрамі. Будучы аператарам супрацоўнічаў, між іншым, з Тамарай Саланевіч пры фільмах «Крэсавая балада», «Жэртва», «Крык пушчы» і «Мелодыя душы».

— Зацікаўленне фатаграфіяй і фільмам у Міколы Нестаровіча было з дзяцінства. Самастойна зрабіў свой першы фотаапарат — гэтак званую камеру-абскуру. У дванаццаць гадоў пачаў ствараць свае фільмы і рабіць паказы, на якія запрашаў суседзяў і жыхароў Орлі. Сястра Ніна прадавала білеты на сеансы, якія карысталіся вялікім зацікаўленнем. Здымаў тое, што было навокал — вясковую сцэнаграфію, простых людзей. У гэтым напрамку ішоў таксама ў сваім прафесійным жыцці, — напісала ў каталогу Агнешка Ціханюк, адказная ў музеі за мастацкую дзейнасць. — Пачынаючы з васьмідзясятых гадоў, Міколу Нестаровіча лічылі адным з самых лепшых кінааператараў польскага дакументальнага кіно. Ён быў узнагароджаны 36 узнагародамі на прэстыжных кінафестывалях у Польшчы і за мяжой, між іншым у Канадзе, Фінляндыі, Іспаніі, Італіі, Швейцарыі, Францыі і Нямеччыне.

У 2006 годзе адбылася прэм'ера фільма «Паштоўка з неба», рэжысёрам якога з'яўляецца сын Мікалая Нестаровіча, Пётр. Займаецца ён перш за ўсё фатаграфіяй, але таксама рэалізуе фільмавыя праекты. Сабраныя ў кіназале з прыемнасцю паглядзелі стужку, у якой жыхары Орлі, якія добра ведалі Міколу Нестаровіча, расказвалі пра яго перад камерай. Сярод расказчыкаў быў шматгадовы дырэктар бельскай «тройкі», ураджэнец Орлі Васіль Ляшчынскі. Перш за ўсё выказваліся звычайныя жыхары Орлі. Расказвалі яны пра першыя зацікаўленні іх сябра Колі фатаграфаваннем і распавядалі пра яго мастацкія здольнасці. Некаторым сваім сябрам Мікола прысылаў паштоўкі з розных краін, частка якіх захавалася. На стужцы «Паштоўка з неба» можна паглядзець фрагменты фільмаў, да якіх здымкі выконваў Коля Нестаровіч, як яго называлі ў Орлі. Паказваў ён знаёмым таксама цікавейшыя фільмы, да якіх выконваў здымкі. Арляне радаваліся, што з іх мясцовасці выводзіцца так вядомая ў Польшчы асоба. Суразмоўцы Пятра Нестаровіча распавядалі таксама, як Колю віталі яго сябры і жыхары Орлі,



■ Дырэктар Тамаш Ціханюк і Пётр Нестаровіч (справа) адкрываюць выставу

як той умеў вельмі цікава расказваць, што ўбачыў у розных краінах свету.

— Калі Коля Нестаровіч прыязджаў у Гайнаўку і разам са здымачнай брыгадай Польскага тэлебачання рабіў здымкі ў Гайнаўскім дрэваапрацоўчым прадпрыемстве, я дапамагала ім арганізаваць пабыўку. Коля быў вясёлым, адкрытым на іншых людзей чалавекам, які хутка завязваў знаёмствы з напатканымі асобамі, — сказала спадарыня Валя з Гайнаўкі, якая была вельмі ўзрушаная фільмам «Паштоўка з неба».

З кожнай краіны Мікола Нестаровіч прывозіў многа фатаграфій, апісваў іх і з фатаграфічных плёнак ствараў каталогі.

— Пры нагодзе стварання дакументальных фільмаў, якія здымаў ва ўсім свеце, Мікола Нестаровіч фатаграфаваў жанчын. Марыў паказаць прыгожую палову чалавецтва на выставе, якую рыхтаваў на працягу дзесяці гадоў. На жаль, не дачакаўся адкрыцця выстаўкі ў варшаўскіх Лазенках. Памёр раптоўна. Выстаўку завяршыў сын Пётр. Свае мадэлі Мікола Нестаровіч выбіраў насуперак існуючым канонам моды і прыгожасці. Фатаграфаваў сумных, брудных, непрыгожых, старых жанчын, жанчын-вояў, жабрачак, бяздомных, — праінфармавала Агнешка Ціханюк.

Выстаўку «Жанчыны свету» састаўляюць у белмузеі фатаграфіі, зробленыя перш за ўсё ў Амерыцы, Афрыцы і Азіі. Побач асноўнай выставы ў кіназале белмузея можна ўбачыць таксама здымкі жанчын, выкананыя Міколам Нестаровічам у шасцідзясятых гадах, і фатаграфіі з Сібіры ды здымкі прыроды з іншых незвычайных месцаў.

— Гэта мой бацька падбіраў здымкі жанчын на выставу, але памёр, не дачакаўшыся іх публічнага паказу. Я канчаў падборку здымкаў да экспазіцыі «Жанчыны свету», якая першапачаткова паказвалася ў варшаўскіх Лазенках, а пасля ў Бельску-Падляшскім і ў Гайнаўцы. Усе гэтыя здымкі я перагледзеў, сантыметр па сантыметры. Папраўляў на фатаграфіях вастрыню, нешта рэтушаваў. Яны былі выкананы ў вялікім фармаце, — гаварыў Пётр Нестаровіч.

— Паралельна Мікола Нестаровіч развіваў свае мастацкія зацікаўленні. З падарожжаў прывозіў рысункі, эскізы. Аднак мастацкай выставы ніколі не зрабіў. Не было ў яго на гэта часу. Ён здзяйсняў сябе праз фатаграфію і працу з камерай, у чым поўнасцю праяўлялася яго ўражлівасць і назіральнасць. На выставе ў нас паказаны таксама рысункі Колі Нестаровіча, якія ніколі не былі прэзентаваны і публікаваны, але вартыя ўвагі за добрае майстэрства мастака. Бачым тут арлянскую сінагогу, архітэктуру і краявіды розных месцаў у свеце, партрэты і рысункі, якія выканаў, рыхтуючыся да паступлення ў Мастацкую акадэмію ў Варшаве, — заявіла Агнешка Ціханюк.

— Адшукаць і падабраць цікавейшыя рысункі майго бацькі на экспазіцыю заахвоцілі мяне Агнешка і Тамаш Ціханюкі. Калі я стаў пераглядаць рысункі бацькі, адкрыў, што недзе трэцяй часткі іх раней я не заўважыў і толькі цяпер адкрыў іх вартасць. Частку рысункаў прэзентаваных на экспазіцыі бацька выканаў у апошніх гадах свайго жыцця, але ёсць таксама працы, якія выканаў у маладосці, — сказаў Пётр Нестаровіч. — Я яшчэ думаў выдаць альбом са здымкамі майго бацькі, але гэтая задума покі не ажыццяўляецца. Мы многа разоў глядзелі фільм пра будову Семяноўскага вадасховішча «Ці чуеш, як плача зямля» Тамары Саланевіч, да якога здымкі рабіў мой бацька, а пры нагодзе закрыцця выставы я хацеў бы яшчэ запрэзентаваць у Гайнаўскім белмузеі фільм, да якога здымкі таксама рабіў мой бацька пра гэтае вадасховішча «Возера поўнае слёз». Ён прэзентаваўся ў публічным тэлебачанні толькі адзін раз і нават цяпер няма яго ў архівах Польскага тэлебачання. Ён быў у архівах бацькі і я хацеў бы паказаць гэтую стужку жыхарам Гайнаўшчыны.

— Калі б здымкаў да фільма Тамары Саланевіч пра Семяноўскае вадасховішча не выконваў Мікола Нестаровіч, яны не былі б так дасканалымі. Часта ўспамінаецца рэжысёраў, а забываецца пра дасканалых кінааператараў, — заявіла Агнешка Ціханюк.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

## Што я ведаю аб Яну Анісэровічу (Яшу Буршу)

Яна Анісэровіча я першы раз сустрэў у Беластоку ў 1957 годзе ў рэдакцыі «Нівы» на літаратурным семінары, дзе сустрэў таксама пасля доўгага перапынку ад 1948 года Віктара Шведа і даведаўся там ад яго, што мы жывем у Варшаве ў тым самым блоку. Пасля я часта сустракаўся з Анісэровічам у клубе БГКТ па вуліцы Сенатарскай у Варшаве, на вуліцах горада і на літаратурных семінарах у Беластоку. У клубе на Сенатарскай на сценах віселі яго мадэрнісцкія карціны. Мы з ім разам былі ў Беластоку 8 чэрвеня 1958 года на з'ездзе, які заснаваў Беларускае літаратурнае аб'яднанне «Белавежа», што можна пабачыць на здымку на стар. 134 у кніжцы Тэрэсы Занеўскай «Podróż daremna». Я сяджу з левай стараны стала, а Яша Бурш — з правай. Ён тады быў вельмі актыўным дзеячам «Белавежы», часта чытаў свае вершы сялянам у вёсках, на што я не меў часу. Нашы вершы друкаваліся тады ў «Ніве», у «Беларускіх календарах», выдаваных БГКТ, у «Альманахах „Белавежы"» і ў першым зборніку «Рунь». Сустрэўся я з ім у Варшаве ў 1969 годзе ля дзіцячага ўнівермага. Тады ён скардзіўся, што быццам бы перасталі друкаваць яго вершы ў «Ніве» і што ён вырашыў парваць сувязі з літаратурай і хоча заняцца толькі мастацтвам. Я адгаворваў яго, ды ён сказаў, што мае большыя перспектывы ў мастацтве. Калі я яго пытаў аб яго жыцці ў Беларусі, ён ухіляўся ад адказу, не хацеў нічога прыпомніць. Калісь, дзесь у 1984 годзе, я нечакана сустрэў яго на вуліцы. Ён хваліўся сваімі поспехамі ў мастацтве, што яго карціны знаходзяцца ў многіх музеях Еўропы, што быў ён у Італіі і ў іншых дзяржавах Еўропы. Я толькі быў здзіўлены што нідзе ў інтэрнэце не мог знайсці яго біяграфіі і што пад прозвішчам Ян Анісэровіч няма яго ў Вікіпедыі.

**Дзмітры ШАТЫЛОВІЧ**

## Восем прыгожых вясковых святліц

Улады Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета дбаюць пра святліцы. Вясковыя дамы культуры маюць прыгожыя і прасторныя залы, столікі, крэслы і іншае клубнае абсталяванне. У некаторых святліцах ёсць тэлевізары, вельмі патрэбныя зараз, у зімні перыяд, камінкі, а таксама кухні і кухонную пасуду. Шэсць святліц маюць туалеты.

Асабліва прыгожыя святліцы ёсць у Нараўцы, Старым Ляўкове, Міхнаўцы, Семяноўцы, Гушчэвіне, Альхоўцы, Плянце і Тарнопалі. Добрыя ўмовы маюць яны таксама ў Ахрымах, Баб'яй Гары, Заблотчыне, Міклашэве і ў Старым Масеве. Новую мэблю атрымалі святліцы ў Тарнопалі, Плянце, Ахрымах і ў Баб'яй Гары.

Актыўную дзейнасць вядуць святліцы ў Нараўцы, Старым Ляўкове, Семяноўцы, Міхнаўцы і Плянце. У іх адбываюцца аўтарскія сустрэчы з мясцовымі беларускімі паэтамі, навагоднія балі, сустрэчы з нагоды Міжнароднага дня жанчын. Пісьменнікі мелі аўтарскія сустрэчы з чытачамі таксама ў Баб'яй Гары, Гушчэвіне, Міклашэве, Старым Масеве і ў Тарнопалі. Пра іх пісалі мы ў «Ніве». Былі яны ўдалыя. Было зацікаўленне вяскоўцаў. Аўтары новавыдадзеных кніжак — у верасні мінулага года выйшаў зборнік вершаў «Бабінае лета» Веры Радзіванюк, а ў студзені гэтага года «Жывуць песні» Мікалая Варанецкага — хочуць, каб было іх больш. А зараз найлепшая для гэтага роду мерапрыемстваў пара.

Тутэйшым паэтам (ёсць іх тут восем) у арганізацыйных справах найбольш дапамагаюць войт Нараўчанскай гміны Мікалай Павільчі дырэктарка Гміннага асяродка культуры ў Нараўцы Галена-Марыёля Рээнт.

Варта дадаць, што ў 2016-2018 гадах — ёсць такія планы — будуць пабудаваныя з цэглы новыя святліцы ў Лешуках, Новай Луцэ і ў Новым Масеве.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

# Гайнаўскія сустрэчы з праваслаўнай калядкай



■ Дзіцячы хор Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы

Першапачаткова «Гайнаўскія сустрэчы з праваслаўнай калядкай» сталі арганізаваць у Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы і прынялі ў іх удзел дзеткі і моладзь з Гайнаўкі, да якіх пазней сталі далучацца вучні навакольных школ. Пасля гэтае мерапрыемства стаў у Гайнаўскім доме культуры ладзіць Дэканальны інстытут праваслаўнай культуры ў Гайнаўцы. Удзел у ім пачалі прымаць таксама калядоўшчыкі з Бельскага, Сямятыцкага і Беластоцкага паветаў ды моладзь з Беларусі і Украіны. Сустрэчы сталі доўжыцца чатыры дні, а да дашкольнікаў і вучняў сталі далучацца прыхадскія хары, народныя вясковыя і гарадскія музычныя калектывы, прадстаўнікі асяродкаў і дамоў культуры. У выніку сустрэчы з праваслаўнай калядкай атрымалі ранг фестывалю.

Сёлетні Фестываль «Гайнаўскія сустрэчы з праваслаўнай калядкай» (11-16 студзеня) быў крыху менш шматлюдным у параўнанні з мінулымі гадамі, але лепшым у мастацкім плане. Выступоўцы славілі Хрыстовае Нараджэнне, выконваючы калядкі на вельмі высокім мастацкім узроўні. Спявалі на ўсходнеславянскіх, грэчаскай і сербскай мовах. У рэпертуары шматлікіх груп калядоўшчыкаў часта паяўлялася калядка на беларускай літаратурнай мове.

— Трэба аддаць гонар Гайнаўскаму белліцэю, які першапачаткова стаў ладзіць «Гайнаўскія сустрэчы з праваслаўнай калядкай», — заявіў мітрафорны протаіерэй Міхаіл Негярэвіч пасля літургіі ў Свята-Троіцкім саборы ў Гайнаўцы, запрашаючы вернікаў і жыхароў горада ў Гайнаўскі дом культуры на сустрэчы з праваслаўнай калядкай.

Галоўнымі арганізатарамі калядных сустрэч, якія адбываюцца з благаславенства мітрапаліта Савы, з'яўляюцца Дэканальны інстытут праваслаўнай культуры ў Гайнаўцы, Аб'яднанне «Любіцелі царкоўнай музыкі» і Гайнаўскі дом культуры, а суарганізатарамі — Свята-Троіцкі прыход у Гайнаўцы, гайнаўскае аддзяленне Брацтва праваслаўнай моладзі і моладзь Гайнаўскага белліцэя. Сёлета выступіла 26 груп калядоўшчыкаў, у якіх спявала каля 500 чалавек. Усе яны атрымалі ад Дзеда Мароза індывідуальныя падарункі, а пераможцы конкурсу — вартасныя ўзнагароды, дзякуючы дапамозе шматлікіх спонсараў, якія 16 студзеня прысутнічалі на гала-канцэрце ў Гайнаўскім доме культуры. У пачатку гала-канцэрта протаіерэй Павел Стэрлінгаў зачытаў фрагменты з Ражджэственскай багаслужбы і звярнуў увагу на словы калядак, якія перш за ўсё славяць нашага Збавіцеля.

— Падчас «Гайнаўскіх сустрэч з праваслаўнай калядкай» мы славім Хрыстовае Нараджэнне і стараемся захаваць нашы традыцыі калядавання, якія знікаюць нават па вёсках. Самае важнае тут радаснае калядаванне, з унутранай патрэбай славіць Новanароджанага Хрыста, — заявіў протаіерэй Павел Стэрлінгаў, кіраўнік Дэканальнага інстытута праваслаўнай культуры ў Гайнаўцы.

Падчас конкурсных слуханняў першымі на сцэну выйшлі дашкольнікі, якія на прыстойным узроўні калядавалі шчыра і адважна. Дзеткі на сцэну ўводзіла Снягурачка, якая ўручала выступоўцам дыпломы за ўдзел у конкурсе.

— Мы з нашымі дзеткамі развучылі новыя калядкі. Нашы дашкольнікі ў народнай вопратцы выступаюць перш за ўсё з беларускім народным рэпертуарам, — сказалі Міраслава Ніканчук і Ала Супрун, якія апякуюцца калектывам Самаўрадавага прадшколля № 1 у Гайнаўцы.

Пад акампанемент фартэпіяна займальна закалядавалі дашкольнікі з Прадшколля № 5 у Гайнаўцы, якіх да выступу падрыхтавалі Іаанна Сухадола, Барбара Дзмітрук і Дарота Юрчук. Удала запрэзентаваліся таксама дзеткі з астатніх гайнаўскіх садкоў. Пасля дашкольнікаў выступілі вучні падставовых школ. Займальна запрэзентаваўся школьны вакальны калектыў «Вясёлыя ноткі» з Непублічнай падставовай школы ў Арэшкаве.

— Нашы вучні ахвотна рыхтуюцца да калядавання на сцэне. Сёлета падрыхтавалі мы калядкі на сербскай і грэчаскай мовах, якія гучаць арыгінальна, — заявіла Марта Вэршка, апякун «Вясёлых нотак».

Калектыў «Лясныя ноткі» з Падставовай школы № 3 у Гайнаўцы цікава запрэзентаваўся на сцэне з традыцыйнымі калядкамі.

— Мы з беларускім рэпертуарам выступаем пад музычны акампанемент, а тут калядавалі без акампанементу і да такога спеву больш складана падрыхтавацца, — заявіла настаўніца беларускай мовы Марыя Крук.

Калектыў «Гіп-Топ» з Комплексу школ № 3 у Гайнаўцы заспяваў калядкі пад акампанемент часткі ўдзельнікаў духавога аркестра Павятовай пажарнай аховы ў Гайнаўцы. Прыгожа калядаваў калектыў з Комплексу школ № 2 у Гайнаўцы і ўдала запрэзентаваўся з калядкамі дзіцячы хор з Комплексу школ № 1 у Гайнаўцы, якім дырыжыруе Паўліна Скепка, таксама кіраўнік дзіцячага хору ў царкве Нараджэння св. Іаана Хрысціцеля ў Гайнаўцы. Займальна заспяваў калядкі дзіцячы хор Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы, якога дырыжорам ад лютага мінулага года з'яўляецца Юстына Харкевіч.

— Я вельмі рада выступам нашага дзіцячага хору. Нашы дзеткі сумелі мабілізавацца падчас рэпетыцый і ў выніку выступілі цудоўна, — сказала дырыжор Юстына Харкевіч.

На асабліва высокім мастацкім узроўні запрэзентаваўся на сцэне вялікі маладзёжны хор гайнаўскага сабора.

— Я рады сёлетняму выступу нашых маладзёжных харыстаў. Асабліва спадабалася мне калядаванне дзіцячага хору пры саборы. Падрыхтаваць дзетак і моладзь да спеву ў царкве — складаная праца. Моладзь часта выязджае з Гайнаўкі і ўвесь час трэба прывучаць да царкоўнага спеву штораз новых спевакоў, — заявіў протадыякан Марк Мацюка, дырыжор маладзёжнага хору пры саборы, які 20 гадоў кіруе яго дзейнасцю.

Цудоўна калядаваў квінтэт «Доўгі вечар» з Гайнаўкі, які дзейнічае год часу і выступае з царкоўным і свецкім рэпертуарам. Удала калядаваў маладзёжны хор царквы Нараджэння св. Іаана Хрысціцеля ў Гайнаўцы.

— Мы сёлета выступілі з калядным канцэртам у сваёй царкве і, так як і ў мінулых гадах, калядавалі па нашых верніках у Гайнаўцы, — заявіла дырыжор хору Віта Кацюбайла.

На высокім узроўні калядаваў хор праваслаўнага прыхода ў Арэшкаве, якога дырыжорам з'яўляецца Эва Сурэль. Тры групы калядоўшчыкаў — «Званкі», «Студыя песні» і «Рэха пушчы» — прадставілі Гайнаўскі дом культуры. Прыгожа апранутыя ў зімовую вопратку цікава калядавалі на сцэне дзеткі і моладзь калектыву «Званкі», з якім займаецца Вера Масайла. У сваіх касцюмах займальна калядавалі дзяўчаты з малодшай і сярэдняй груп «Студыі песні».

— Мы найчасцей выступаем са свецкім рэпертуарам. Падчас калядных сустрэч спяваем спакойныя калядкі. Яны дазваляюць задумацца аб Ражджастве Хрыстовым і нашым жыцці, — заявілі Марыя Савіцкая і Іза Карчэўская са «Студыі песні», якой музычным кіраўніком з'яўляецца Марта Грэдаль-Іванюк.

У беларускім хоры «Рэха пушчы» спяваюць многія харысты Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы. Яны на сцэне прыгожа славілі Хрыстовае Нараджэнне, калядуючы са сваім дырыжорам Алінай Негярэвіч. Дастойна калядавалі таксама «Верасы» з Чыжоў і «Жаваранкі» з Махнатага. Удала заспяваў калядкі калектыў «Знічка» Гайнаўскага белліцэя, у якім з мінулагодняга складу засталіся толькі некалькі асоб. Цяпер спяваюць перш за ўсё новыя вучні.

— Новы склад «Знічкі» гэта для нас новыя выклікі. Калядаванне — асаблівы выступ для нашых вучняў і для мяне, калі мы перажываем радасць Божага Нараджэння і хвалім Хрыста, — сказала Бажэна Вінцонак, музычны кіраўнік «Знічкі», якая кіруе яе дзейнасцю ўжо звыш 20 гадоў.

Вучні са Спецыяльнага школьна-выхаваўчага асяродка і Майстэрні працатэрапіі ў Гайнаўцы калядавалі адважна і радасна, за што атрымалі гарачыя апладысменты.

— Калядаванне — гэта рэлігійная адукацыя і тэрапія для нашых вучняў, — заявіла настаўніца праваслаўнай рэлігіі ў Спецыяльным школьна-выхаваўчым асяродку Альжбета Стэрлінгаў.

У катэгорыі «дашкольнікі» выступілі толькі дзеткі з Гайнаўкі. Журы першае месца прысудзіла дзеткам з Прадшколля № 5, другое месца занялі дашкольнікі з Прадшколля № 1, а трэцяе месца атрымалі дзеткі з Прадшколля «RED BUS KIDS».

Сярод вучняў падставовых школ першае месца занялі дзеткі з Непублічнай падставовай школы ў Арэшкаве, другое месца камісія прызначыла вучням Комплексу школ № 1 у Гайнаўцы, а на трэцім месцы апынуліся вучні Падставовай школы № 3 у Гайнаўцы.

У катэгорыі «калектывы дарослых калядоўшчыкаў іншыя» першага і трэцяга месцаў камісія не прысудзіла, а другое месца заняў хор «Рэха пушчы» Гайнаўскага дома культуры.

Сярод «дзіцяча-маладзёжных калектываў калядоўшчыкаў іншых» першае раўнапраўнае месца занялі «Студыя песні» ГДК і квінтэт «Доўгі вечар» з Гайнаўкі, на другім месцы апынуўся калектыў «Дабрына» з Беластока, а трэцяе месца заняў белліцэйскі калектыў «Знічка».

У катэгорыі «прыхадскія хары» першае месца заняў маладзёжны хор Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы, другое месца журы прысудзіла дзіцячаму хору гайнаўскага сабора, а на трэцім месцы апынуліся маладзёжны хор прыхода Нараджэння св. Іаана Хрысціцеля ў Гайнаўцы і хор праваслаўнага прыхода ў Арэшкаве.

Камісія прызначыла таксама дзве спецыяльныя ўзнагароды для груп калядоўшчыкаў з Майстэрні працатэрапіі і Спецыяльнага школьна-выхаваўчага асяродка ў Гайнаўцы.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

# Навагодні ўспамін з усмешкай

Васьмідзесяцісямігадовая Вера Сакалоўская з дому Навумчык вельмі шчаслівая жанчына, любіміца сына — былога лётчыка і не менш разумнага ўнука. Вельмі ж пра яе дбаюць. Вось якраз рыхтуюць дровы на зіму. Праца ідзе хутка, спраўна, у сапраўды вайсковым рэжыме. Не страшныя ёй цяпер лютыя маразы. Клапатлівы лётчык выяўляе занепакоенасць маім кепска прыпаркаваным аўтамабілем, затым запрашае на маміны пакоі па-джэнтльменску прапускаючы мяне перадам. Знаходжуся на засланай хатнімі ходнікамі драўлянай падлозе, у акружэнні цёплых печак і старых шаф. Вера сядзіць на драўляным ложку засланым прыгожай чорна-бардовай капай. Мабыць, сама яе саткала. Цёплая, вязаная камізэлька, ваўняныя шкарпэткі, тканая, цікава пашытая спадніца з аблямоўкай у клетачку здраджваюць незлічоныя таленты і працавітасць жанчыны. Апраўдваецца, што ў хаце ўсё па-простаму, не так як у іншых. Што ж, сыну так падабаецца. Ці Вера сапраўды марыць пра нешта другое, я няўпэўненая. Надта шмат усміхаецца, а нават смяецца. Смяецца цягам цэлай нашай сустрэчы. Гэты бесклапотны, юнацкі смех здзіўляе сваёй несучаснасцю. Сёння ж не смяюцца ні дзеці, ні моладзь, ні тым больш старыя людзі. Смех, быццам чароўны эліксір, пераносіць нас у іншае вымярэнне, у колішнюю вёску, багатую на ўсялякія справы, заняткі і, канешне, гульні. Пакідаем падбабіцкія Шчансновічы, каб на хвіліну перанесціся ў яе родныя, суседнія Кнышэвічы.

Пераднавагодні вечар паводле старога календара. Цешацца і бяднейшыя, і больш багатыя, але, мабыць, найбольш вясковая моладзь. Верушка разам са сваімі сяброўкамі збіраецца на варажбу, гуканне любімага. Хто ж не хоча любіць і быць любімым? Але ў жыцці па-рознаму складаецца. Паяўляецца любоў больш ці менш сапраўдная, а потым яна знікае. Адны, нягледзячы на абставіны, застаюцца вернымі сужонскаму вянку, іншым зноў так ён паліць галаву, што чым хутчэй зрываюць, топчуць і хаваюць яго глыбока ў зямлю. Як бы не глядзець, кожны з'яўляецца кавалём свайго лёсу і сам будзе змагацца з паслядоўнасцямі прынятых рашэнняў. Але ж Верцы і яе сяброўкам цяпер у галаве толькі самыя лепшыя пачуцці, абавязкова з казачным хэпі-эндам. Прытуліліся ў хаце старой, адзінокай Настусі. Сама нічога талковага не даваражылася ў жыцці, тады няхай хаця гэтым маладым пашанцуе. Цёмны, зімовы вечар спрыяе вясковай метафізіцы. На двары холадна, што сабаку не выжанеш. Але нашто ж ганяць, калі ён патрэбны. Без сабакі варажыць немагчыма. І ўвогуле адкуль у кнышэвіцкіх дзяўчат веданне хрысціянскай сімволікі гэтай невялікай звярынкі. Святы Рыгор Вялікі зрабіў вобраз сабакі — прапаведніка пры Боскім Пастыры Хрысце, а зноў цяжарнай добраслаўлёнай Іаанне — маці святога Дамініка (Domini canes — з лаціні: Божыя сабакі) прысніўся сабака, які ў зубах трымаў паходню і бег па ўсім свеце, распальваючы ў ім агонь. Мела гэта значыць, што дзіця, якое народзіцца, будзе запальваць на зямлі агонь Божай любові.

Падрыхтоўка да таямнічых практыкаванняў адбываецца ў абсалютнай адсутнасці хлопцаў. Калі, не дай Божа, дазнаюцца, зараз прыляцяць і наробяць ім вэрхалу. А тут і піражкі трэба спячы, сабаку і курыцу злавіць. Выцягваюць з-пад печы — зімовага кунатніка — курэй адразу на сярэдзіну кухні, кожная па адной. На зямлі стаяць міскі з вадой і аўсом ды люстэрка. Бяда, калі курыца выбірае люстэрка, значыць гэта, што муж будзе прыгожым гультаём. Але, мабыць, яшчэ горш, калі падыдзе да міскі з вадой. Тут вобраз курыцы пераўтвараецца ў вачах дзяўчыны ў жахлівага, агрэсіўнага п'яніцу. Цешыцца толькі гэтая, якой курыца дзяўбе аўсянае зерне — яе муж бясконца будзе ўзорам руплівасці і працавітасці. Піражкі пакідаюць сабакам. Сцягваюць іх сюды з цэлай вёскі. Надзін піражок знікае першым, значыць другога года з сяброўкамі ўжо не дачакаецца, вясной замуж пойдзе. Зінка і Маня таксама замуж хочуць, давай тады падсоўваць пад сабачыя пысы свае піражкі. Валя ўжо не паспела, хлопцы, як на злосць, прыбралі ейнага Бурка.



■ Вера Сакалоўская

Трэба ці не трэба выбралася Верка той жа ноччу да старога калодзежа з журалём па ваду. Рып, рып — рыпіць пад нагамі замарожаны снег; стук, стук — стукае напужанае, дзявочае сэрца. Апусціць жураўлінае сцябло, бразне яно, вада выліваецца, сцябло зноў бразне. А тут раптам сабака суседзяў як не забрэша: гаў, гаў, гаў...

Дагаўкаўся сабака. Усё спраўдзілася. Пайшла Верка замуж следам за сабачым гаўканнем. Ніколі не падумала, што туды замуж пойдзе, мала яго ведала.

Маці Веркі варыць навагоднюю, тлустую куццю. Зачэрпваюць яе лыжкамі з адной міскі. Як кажуць — хто першы, той лепшы. Дзяўчаты спецыяльна ці не спецыяльна ўпускаюць тлустыя ад скваракі крупіны панцаку на зямлю. Потым падымаюць іх, абвязваюць шмоткай і кладуць пад падушку, каб у сне пабачыць свайго чаканага.

На вуліцы сапраўдная мітусня. Усе дзяўчаты лётаюць ад хаты да хаты, быццам у таямніцы перад хлопцамі. Толькі Грыбавых — адзіных у вёсцы каталічак — няма. Мабыць, у іх свае варажбы. Але як яны варожаць на свой Новы рок, то хто яго ведае?

— Хадзіце да нас, — маніць дзяўчат стары кавалер Васька. — Я з хаты пайду, толькі маці застанецца, будзеце рабіць што хочаце.

Яны ў хату, а там хлопцы. Але дзявочы род дружны, не здрадзяць адна адной. Зараз знайшлі сабе новае месца, селі каля акна і глядзяць. Хлопцы прыціхлі, значыць, можна на вуліцу выйсці, песні спяваць, жарты строіць. У вёсцы саломы і попелу пад дастаткам, хапае, каб высцеліць любоўныя дарожкі з аднаго канца сяла ў другі, каб усе ведалі, хто з кім спатыкаецца. Дарожку раней высцеленую хлопцамі трэба абавязкова прыбраць — такія дзявочыя прынцыпы. Яшчэ не зусім спрацаваныя, маладыя рукі абдымаюцца з платамі: «тын, тынец, кавалер, удавец; тын, тынец, кавалер, удавец» як плот доўгі і шырокі. Так хочацца ведаць кім жа ён будзе. Наваражыўшы і нагуляўшыся да сыта, вяртаюцца да даверанай удавы на вячэру. Падаграваюць, смажаць, што там катора змагла вынесці з хаты. Ёсць таксама ціхачом прыдбаная бутэлька гарэлкі для падтрымкі і так дастаткова добрага гумару. Пасля чарачкі лягчэй спяваць, абавязкова ваенныя шлягеры. Хлопцаў лепш не запрашаць, а то панапіваюцца і наскандаляць, яшчэ і паб'юцца. Сустрэнуцца з імі на заўтрашніх, навагодніх танцах. Ёсць свае музыканты: балалаечнікі, гарманісты і барабаншчыкі. Зайграюць, заспяваюць, а яшчэ і абтанцуюць.

❖ Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

## Навагоднія разважанні

Паступіў новы год. Які будзе, лепшы ці горшы ад мінулага? На гэтае пытанне цяжка адказаць. Зважыўшы на свой узрост і багаты жыццёвы вопыт, дык пастараюся разважыць думкі прагматычна. У час парламенцкіх выбараў заверыў я папулісцкім лозунгам партыі Права і справядлівасць. Тычылася гэта дзвюх спраў, якія пераможцы абяцалі рашыць у першыя сто дні для ўрада, а якія паўплывалі б на паляпшэнне быту пенсіянераў, г.зн. бясплатныя лякарствы для сеніёраў, якім больш за 75 гадоў і павышэнне да васьмі тысяч зл. квоты вольнай ад падаходнага падатку. Але зараз выявілася, што на гэтыя рэформы не хапае грошай у бюджэце. Значыцца, каманда Бэаты Шыдла абдурыла выбаршчыкаў. Апошнія абяцанні здаюцца быць таксама ілюзіяй. Не будзе сёлета закона аб паніжэнні пенсіянерскага ўзросту, які сам прэзідэнт Анджэй Дуда абяцаў у час выбарчай кампаніі... А што з сёлетняй пераацэнкай для пенсіянераў? Адзін садом і гамора! На пасяджэнні 15 студзеня парламент прыняў рашэнне, каб замест пераацэнкі даць пенсіянерам аднаразовы дадатак тым, у каго пенсія не перавышае дзвюх тысяч злотых. Але не аднолькава для ўсіх. Дадатак будзе абгрунтаваны пэўным крытэрыем. У каго пенсія не перавышае 900 зл. атрымае дадатак 400 зл., затым адпаведна: 900-1100 зл. — дадатак 300 зл., 1100-1500 зл. дадатак — 200 зл., затым 1500-2000 зл. дадатак — 50 зл. У маім выпадку, параўнаўшы з мінулагодняй пераацэнкай (30,17 зл. штомесячна), я нічога не скарыстаю. Наадварот, затрачу ў год 311,68 зл. — (30,17 х 12 = 361,68-50 = 311,68 зл.) Просты рахунак. І чым тут цешыцца? Але гэта не ўсё што мяне бударажыць. Структурныя рэформы, якімі ўпраўляючыя заняліся на „начных пасяджэннях", у асноўным незаконнымі пастановамі аб Канстытуцыйным трыбунале і масмедыях паўплывалі на паніжэнні Польшчы ў рэйтынгу краін у гаспадарчай сферы. У сусветным маштабе затрацілі мы верагоднасць у справе фінансаў. Раптоўна паніжаецца курс польскай валюты — злотага. Павышаецца кошт абслугі запазычанасці. З кожным днём можна спадзявацца павышэння цэн на харчпрадукты, затым кошту абслугі банкавых рахункаў і таму падобных. А што аб гэтым думаюць „франковічы"? Лепш не гаварыць. Для ўпраўляючых, як і самога старшыні ПіС Яраслава Качынскага гэта ўсё трын-трава. Яны карыстаюцца сваёй логікай і пяюць адвечную песеньку: „Палякі, нічога не здарылася".

## Бюджэт Чаромхаўскай гміны

На пасяджэнні Рады гміны ў Чаромсе, якое адбылося 30 снежня 2015 года, быў прыняты бюджэт гміны на 2016 год. Сёлетні бюджэт складае 11 310 000 зл. на баку прыбыткаў і 10 550 000 зл. на баку выдаткаў. У параўнанні да мінулагодняга бюджэту прыбытак увялічыўся на 2 948 зл.

Вось як гмінны самаўрад размеркаваў сёлетні бюджэт. На інвестыцыйныя задачы прызначана 781 100 зл., прычым на афармленне праектна-тэхнічнай дакументацыі каналізацыі Чаромхі-Сяла — 65 000 зл. і такой жа дакументацыі на асфальтаванне вуліцы Вісьнёвай з прылеглымі вулачкамі — 147 600 зл., затым на перабудову дарогі Чаромха-Сяло — Чаромха-Станцыя — 568 000 зл. На рэалізацыю гэтай задачы будзе выдаткаваных 284 000 зл. з бюджэту гміны, а другую палову пакрыюць вонкавыя датацыі. Іншых інвестыцый не прадугледжана, адно прызначана 760 000 зл. на пагашэнне раней узятых пазык і крэдытаў. У далейшым выдаткі прызначаны на кошты ўтрымання водапровода і ачышчальні сцёкаў — 885 670 зл, сутачныя старшыні і намесніка Рады гміны, а таксама солтысаў і радных — 68 500 зл., пачатковай школы — 1 521 720 зл., прадшколля — 388 234 зл., гімназіі — 1 048 017 зл., давоз вучняў у школу — 215 450 зл., ахова здароўя — 61 400 зл., гаспадарка нечыстотамі — 245 000 зл., вулічнае асвятленне — 105 000 зл., на культуру (план) — 324 500 зл., пры чым на ГАК і святліцы — 250 000 зл., бібліятэкі 72 000 зл., затым на фізкультуру — 95 500 зл.

Варта адзначыць, што 1 248 600 зл. складаюць кошты ўтрымання ўправы гміны і зарплаты для самаўрадавых чыноўнікаў.

(ус)



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

Габрыеля ГРЫКА
Азяблы, ПШ у Міхалове

## Зіма

*Ідзе зіма белая і марозная,*
*Падаюць сняжынкі маленькія.*
*А я ступаю ціхенька,*
*Іду павольна,*
*Крочу ў пуху белым.*

Міра ЛУКША

## Таполя

*Я спыталася ў тапалі,*
*што расце ў шчырым полі,*
*як расці адной на волі?*
*А ў яе сясцёр нямала*
*паўсюль панарастала,*
*з сямейства вярбовых,*
*і зусім вяковых:*
*аж шасцісотгадовых;*
*ад іх паветра прачыстае:*
*белая — серабрыстая,*
*дрыжачая — яна ж і асіна,*
*ясакар — чорная тапаліна,*
*і яшчэ з трыццаць відаў*
*тапалёвых гібрыдаў —*
*канадская, буйналістая,*
*бальзамічная...*
*Бо лісце ў яе араматычнае!*
*Святлалюбная, хуткарослая,*
*у «працы» заменіць*
*чатыры сосны,*
*тры ліпы або сем елак —*
*так чысціць паветра ўмела,*
*што на свеце ўсюды чысцей —*
*вылучае духмяны*
*эфірны алей.*
*Як пазбыцца ад пылу ды сажы*
*і вуглякіслага газу — пакажа!*
*Зямлю карэнне мацуе,*
*ад эрозіі глебу ратуе,*
*у аграмеліярацыі таполя*
*добра выконвае ролю,*
*а кару-дубільніцу хваляць,*
*а з драўніны запалку*
*запаляць,*
*паперу, фанеру,*
*мэблю змайструюць,*
*з драўніны летнюю хатку*
*збудуюць...*
*А калі зацвітае*
*ў красавіку і маі,*
*потым з пухам белым пускае*
*насенне ад краю да краю.*
*Дык не самотная ў полі*
*тая таполя на волі.*
*Дарасце ж да сівае даты —*
*не ўхопіш у чатыры абхваты!*



Вучні ІІ б класа з настаўніцай Мартай Ігнатовіч, ПШ № 3 у Бельску-Падляшскім



Клаўдзія ГАЛІНСКАЯ

Клаўдзія ГАЛІНСКАЯ
Гімназія № 7 у Беластоку

## Усмешка

Часам, калі ўсё развальваецца, падумай аб тых, хто цяпер з табой.
Іх сэрцы б'юць не толькі для цябе.
Не рабі паспешных глупстваў, якіх будзеш пасля шкадаваць.
Паглядзі на асобы, якія кахаеш.
І УСМІХНІСЯ!
Нават калі гэтая ўсмешка не вельмі для цябе важная...
Іх яна ашчаслівіць.

* * *

Жыццё гэта такая маленькая, крохкая рэч.
Трэба яго вельмі шанаваць.
Гэта такі маленькі вялікі дар.
Трэба аб яго дбаць і захоўваць яго.
Захоўваць яго ад тых злых, што не шануюць жыцця.
Жыццё.
Гэта толькі хвілінка, але на дзесяцігоддзі, а нават сто гадоў.
Дэталі не вылучаюцца. Простыя, звычайныя людзі...
А я хачу, каб хто-небудзь мяне пазней памятаў.

## УВАГА КОНКУРС! № 5-16

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 7 лютага 2016 г., найлепш па электроннай пошце.
Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Восень ці лета,**
**Зіма ці вясна —**
**Ніколі кажух**
**Не здымае яна.**
**А.....**

**Змерзлі рукі,**
**Змерзлі ногі,**
**Стаў чырвоны нос.**
**Цёпла толькі**
**снежнай бабе,**
**Вось там і м....**

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадкі № 1-16. Гэта літарка „з” (многія з вас пісалі што мабыць гэта літрка „с”). Памятайце аднак, што малады месяц — „маладзік” — абернуты ў леву старану. Калі ён у пазіцыі літаркі „с”, ён ужо ў апошняй фазе і пра яго кажуць „стары месяц”. Правільны адказ даслаў толькі Ігар Кардаш з Нарвы. Ён ва ўзнагароду атрымае майку з лагатыпам Радыё Рацыя. Віншуем!**

# Мары чыжоўскіх дзяцей

У Чыжах ніхто не скажа, што беларуская мова непатрэбная або што яна перашкаджае ў навуцы. Прадстаўнікі старэйшага пакалення ўмеюць выказацца на літаратурнай беларускай мове. У гміне ладзяць «Купалле» і беларускія святы, існуе народны гурт «Чыжавяне». Таксама ў школе — у ёй 70 вучняў у падставовай школе і 36 у гімназіі — амаль усе ходзяць на ўрокі беларускай мовы. Можна сказаць, што тут ідэальны план, заняткі адбываюцца цягам цэлага працоўнага дня і ўсё павінна працаваць «на шэсць»...

У час сустрэчы ў старэйшых класах пачатковай школы мы паднялі тэму беларускага цэнтра. Пра гэта гавораць у гміне ад многіх гадоў. Ці патрэбная такая ўстанова для нашых сяброў. І тут ажно ўскіпела ад задум і мараў! Вучні хацелі б рабіць свае праекты. Як не цікава, тут не было месца для саломапляцення. Нашы сябры хацелі б стварыць сваё радыё і інтэрнэтнае тэлебачанне, каб самім гаварыць пра справы гміны, а таксама пра апошнія здарэнні, пра традыцыі, пра ахову раслін і дрэў, пра моду, пра замежныя краіны. Тут знайшлося б месца і для дыскусійнай кавярні, каб там прэзентаваць фільмы, кніжкі і новыя камп'ютарныя гульні. Напэўна паўсталі б маладзевы музычны гурт і спартовыя гурткі...



Так малявалася справакаваная намі будучыня ў свеце мараў. У сапраўдным жыцці ўсё выглядала больш складана і ўсё здавалася немагчымым. Як тлумачылі настаўнікі — усё залежыць ад даездаў. Пасля трэцяй гадзіны, калі ад'язджае школьны аўтобус, усё жыццё вакол школы замірае. Паколькі многія вучні мараць паступіць у прэстыжныя школы, свой вольны час прысвячаюць навуцы. Найгорш, што ў гэтым спеху няма месца для нацыянальнай культуры і асветы. Ніхто з нашых маладых сяброў не адважыўся выказацца па-беларуску, ніхто не ведаў, пра што пішуць іх сябры ў «Зорцы», ніхто не прачытаў апошнім часам беларускай кніжкі з бібліятэкі. Гэты недахоп наклікаў сорам. Усе разумелі, што губляем рэальныя магчымасці пабудаваць беларускі цэнтр у Чыжах!

**ЗОРКА.**

Фота Ганны Кандрацюк

# Закалядавалі па-беларуску!

Важна, каб паказацца перад сябрамі з чымсьці сваім, прыгожым!

Гэта адбылося ў час «Вечара з калядкай» у беластоцкай гімназіі № 7. Моладзь калядавала на розных мовах свету: па-польску, па-нямецку, па-італьянску. Аднак найпрыгажэй прагучалі беларускія калядкі. Іх спрабавалі співаць вучні, якія не ведаюць беларускай мовы з дапамогай падрыхтаваных заранёў тэкстаў. Як кажуць нашыя сябры — атрымалася цудоўна. Вечарына адбылася 15 студзеня г.г.



## Вершы Віктара Шведа



### Ці пацяплее?

— Зачыні акно малеча,
Калі ласка, Лёня.
На падворку халадэча
Страшэнная сёння.

— А калі зраблю я гэта, —
Адазваўся ціха, —
Будзе нейкая прыкмета,
Там пацяплее крыху?

### Асеннія лісты

На дрэве размаўляюць
Асеннія лісты:
— Скажы, калі падаем,
Не ведаеш ты?

— Не ведаю, мой браце,
Маўчыць уся сям'я.
Зялёнага паняцця
Не маю яшчэ я.

Аляксандра Яроцкая
Гімназія ў Гарадку

### Сундучок

У маёй бабулі быў сундучок,
А ў ім многа цікавых рэчаў.
Былі і капы,
і гафтаваны абрусак,
Даўнія ручнікі.
Ходнікі ткала бабуля
І льнянае палатно.
Яно ўжо пажоўклае,
Бо тканае вельмі даўно.
Маёй бабулі ўжо няма,
А сундучок застаўся, стаіць.
І мая памяць пра бабулю
Не здолее застыць.

## Польска-беларуская крыжаванка № 5-16

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 1:**

Вяз, шум, нагода, ох, нур, душ, ціша, матылёк, каханак, но, рад, фен. Шоў, рух, мак, дах, хутар, шына, зад, лад, цёк, конік, душ, не, парасон.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Рафал Дмітрук, Адрыян Габец** з КШ № 3 у Гайнаўцы, **Наталля Ніканюк, Зузанна Мішчук** з Арэшкава, **Аня Радзівончык, Аляксандр Чарнецкі** з Нараўкі, **Карнелія Порац, Бартэк Чэмярыс** з Нарвы, **Вікторыя Гаць** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!



# На памяць УСІМ замучаным, расстраляным, спаленым, вывезеным у час вайны — на 70-годдзе яе пераможнага заканчэння.

Марыя САШКА

# GRANDE VALSE BRILLANTE

частка VI

27 ліпеня 1943 года. Хто ж тут калі забудзе гэты дзень!..

Гаспадар Франц, раненька, узяўшы французаў і рускіх — з якімі ён прывык ездзіць — адправіўся, звычайна, з агароднінай у Гамбург. Дзень — як кожны дзень, сонца выглянула, засвяціла... Але гэта быў с-у-д-н-ы дзень!..

Сцямнела р-а-п-т-а-м неба ад сотак самалётаў, якія лавай, прастынёй, дываном многакіламетравым ішлі-плылі-ляцелі на горад!.. Роў машын быў страшэнны!.. Бомбы свісталі ўжо тут, перад Гамбургам!.. Куды хавацца?!. Яны ляцяць н-а-д самай зямлёй, над галовамі!.. Над зямлёй!.. Здаецца — не ляцяць, а ідуць-бягуць, побач!.. Здаецца — вось, вось разваліцца галава!.. А ў вушах — адзін толькі візг-трэск-скрыгат!.. Яны адтуль бачаць, што тут НЕ фабрыкі, што вось, на лугу — статкі кароў, што тут поле, тут загоны, яны ж амаль сядаюць на дах парнікаў, але і іх бомбы с-в-і-ш-ч-у-ць!.. Ім там в-і-д-н-а, што тут зусім не порт, не караблі, што тут не верфі-сточні!.. Што ж вы, людзі-пілоты, англічане! Гэта ж відна, вашы машыны! — такую, з безаружнымі, вайну пачынаеце?!. Мы ж — ці страляем да вас?!.

Надзін першы раз бачыла-чула т-а-к-у-ю вайну!.. Зямля стагнала, ляцела ўверх, гаварыла з небам, а якая гэта мова — ты й не ўявіш, бо тут н-і-ч-о-г-а нячутна апрача грукату, візгу ды выцця!.. Надзін ні секунду не думала: н-е-м-ц-ы, д-о-б-р-а вам так!.. За ўвесь боль наш — славянскі, за нашу Варшаву, за маю Пушчу, і мой Беласток!.. Слыханае, бачанае — было і неслыханым, і нябачаным!.. С-т-р-а-ш-н-ы-м!.. Чалавек проста б-а-і-ц-ц-а!.. Галаву хіліць, у зямлю хацеў бы ўлезці-закапацца!..

Яна малілася: — Госпадзі Ісусе, НЕ МАГУ я табе дзякаваць з-а г-э-т-а, за бомбы — якія наўкругі ляцяць, рвуцца!.. За тое, што н-е-м-ц-а-ў б'юць! За тое, што самалёты к-о-с-я-ць траву, і лес, і мястэчка, і нас — польскіх, рускіх, дацкіх, французскіх, усякіх! І нямецкіх!..

Nadine бачыла, як бабка Грэтхен, бягучы, зняла з рук Паўля, паставіла на зямлю — цяжкі ён для яе відна! Махнула да Надзін рукою! — схвацілася за сэрца!.. Як падбегла да яе Шарлота!.. Як р-в-а-н-у-ў ад іх, бягом да Надзін, чамусь, П-а-ў-ль!..

Грэтхен зноў замахала рукамі!.. Nadine адмахнула: — хай малыш б-я-ж-ы-ць!.. Я падбягу, вазьму яго (мела абазначаць)!.. Паўль упаў!.. Надзін падбегла, узяла яго, вярнулася ў сваю разору!.. (усё гэта было хутка, у хвіліну!)... Тут ляжалі датчане... Чамусьці ад хляўоў (каровы? — яны ж на лугу) беглі Васька з Аўдоськай! Яны — вярнуліся — чаму?.. Паўль раптам штось закрычаў! Устаў — ды да бабкі!.. Надзін — за ім!..

Яна пабачыла: пры схроне, не хаваючыся — стаялі Грэтхен з Шарлотай!.. Надзін махнула рукой: у-н-і-з!!. Хавайцеся!!. Хоць бомбы неўдалеч рвалі поле, луг, кароў!.. Там жа іншыя беларусы, Госпадзі!.. Гул стаяў як у вялізнай фабрыцы!. Гэта зямля развіталася з небам!..

Надзін глянула ў бок схрону!.. Зямля з-а-с-т-а-г-н-а-л-а!.. Яна пабачыла як там н-е-м-к-і замахалі рукамі, як абедзве ў-з-н-я-л-і-с-я, у-з-л-я-ц-е-л-і ў-в-е-р-х!!! Як рваўся, ляцеў схрон, узлятала зямля, трава, зелле!.. Б-о-м-б-а, т-а-м! Надзін адпаўзала адсюль, з Паўлем, абы д-а-л-е-й! Лягла на яго, прыкрыла!.. Паблізу на зямлю і на яе ляцеў пясок, каменныя кускі гліны, памідоры, агуркі, капуста, нейкае іншае варыва!.. Дзе была тут кроў, дзе расквашаныя памідоры, дзе часціны... Грэтхен і Шарлоты!!! Г-о-с-п-а-д-з-і У-с-я-в-ы-ш-н-і!..

С-т-а-л-а ў-р-а-з ц-і-х-а!!!

Самалёты зніклі, не вярталіся!!!

Надзін падняла Паўля... Хлопчык маўчаў!.. З вушэй яго пацякла кроў!.. Яна выцірала яго, брала за нос, за валасы!.. Н-е-п-р-ы-т-о-м-н-ы!.. Пайшла кроў з рота!.. Ён м-о-ў-ч-к-і адкрыў вочы!!! Ухваціў Надзін за блузку!.. Прабаваў крычаць — голасу не было!.. Слёзы цяклі!.. Ён увесь дрыжаў!..

Аўдоська, беларуска, крычала да Надзін: — Ты бачыла, як анёлы бралі на авіяпракатку Грэтхен і Шарлоту — у неба? Б-а-ч-ы-л-а? Вось ім — па заслугах!..

— А табе найбольш гэтыя н-е-м-к-і ў жыцці і зашкодзілі, праўда, Аўдоська?..

— Рэзаць бы ўсіх! Як маю вёску спалілі, як маіх пабілі!..

— Так-так, і гэта Грэтхен!.. І маіх спалілі і павесілі!.. І ўсё гэта Грэтхен!..

— А што ты такая сардэчная? Што Курт на цябе зарыўся?!.

— Якая ты дурная!.. На, бяры Паўля, Аўдоська, д-а-р-э-ж! Дзесь тут у парніку і нажы былі!..

— А табе шкада, што немкі падаліся ў парашутысткі?!. Я — маю плакаць?.. Сюды б яшчэ й рускіх, ангельскія самалётаў мала!.. Я б іх сама душыла!..

— На, вось, беларусачка, м-а-л-о-г-а! Канчай, дарэзвай, а? Падружка?!. Сэрца ў цябе, Аўдоська, я бачу, ад злосці, што гарошына ці нават зярнятка!.. Адзічэла і ты!..

Надзін больш не слухала беларусачкі!.. Гаварыла з Паўлем, забыўшыся, што ён жа яе і так не разумее, калі чуе!.. Кроў жа з вушэй!.. — Ну, што ж ты так мяне ўчапіўся, як кіцаня кошкі, пазуркамі?!. Адазвіся!! Маргні вочкамі!!. Ну, не плач, не хліпай, чуеш?!. Не! НЕ аддам жа цябе нікому, ч-у-е-ш?!. Ну, давай, сядзь! Як жа я цябе ад сябе адзяру?!. Відна, толькі з блузкай!!. І што мне з табой?!. Дзед твой у Гамбургу, калі цудам уцалеў у катле, мясарубцы вогненнай!.. Дзядзька ў Нарвегіі, калі й яго яшчэ там, як немца, нарвежцы не затаўклі!.. Ну, у-с-п-а-к-о-й-с-я, будзем іх чакаць!.. Самалёты адышлі, чуеш — як ц-і-х-а стала?!. Дом, бач, цэлы застаўся, хадзі, пашукаем табе есці!.. Во, глянь, некалькі кароў жывых на лузе асталося, малако будзе!.. Хадзі, хлеба пашукаем, а я цябе абмыю!..

***

Па дарозе яна натрапіла на забітых украінскіх дзяўчат, былі там і хлопцы-датчане!.. З-пад хляўоў ішлі бельгійцы — а дзе беларусы?!. Яна падумала: а як гаспадар Франц у Гамбургу, як з ім французы і рускія?.. Там жа было п-е-к-л-а!.. — Гэй! — крыкнула яна. — Беларусы, бельгійцы, пачакайце! Я абмыю Паўля! Будзем усіх хаваць!.. Мух стольскі, ды гарачыня ашалелая!..

***

— Вось вам, казачкі-украінчкі маладыя!.. І песня ўся тут ваша: «Дывлюсь я на нэбо, тай думку гадаю!»... Надзівіліся на гэта неба і адтуль смерць вам прыйшла!.. Эх, дзеванькі, у чужой зямлі ляжаць будзеце, гады два тут праслужыўшы!..

— Аўдоська, ты адыдзі, рве цябе! Такая ты мацака — на кроў гледзячы! У языку ты сілачка!.. Васёк дапамо-жа!.. Пазбіраем у яму бамбовую рэшткі Грэтхен і Шарлоты! Паложым дзяўчат нашых данскіх-дняпроўскх! Прастынямі ўсіх прыкрыем — якія тут труны гатовіць, дзе, з чаго?!. Зямлёй з-а-с-ы-п-л-е-м!.. Магілу ўфармуем, кветкамі абложым! Крыжы — заходні і праваслаўны сарудзім, паставім-саб'ем!.. П-а-м-о-л-і-м-с-я, хто як умее!..

***

— Х-о-дзь-ц-е! — скамандавала Nadine, — есці пашукаем у хаце! Хто крычаць за гэта будзе?!. Мо ўжо і гаспадара няма?!. Во — хлеб, сыр, малако, мяса тут! Давайце чай варыць! І суп тут стаіць, я бачыла!.. Папрачам!.. Вы, потым, кароў рэшту прыжаніце! Падойце, вёдры ў хлявах, уладкуйце ўсё!.. Я з Паўлем у Тэтэнзен падамся, да доктара дзе якога, відна — кантузія ці што? — ён н-е г-а-в-о-р-ы-ць! І кроў ідзе то з рота, то з вушэй!.. Ну, так вось, бо што з ім рабіць, малым, хоць немцам? Якая яго в-і-н-а?.. Я шукала, калясачку знайшла, не данясу ж я яго, цяжкі!.. Я — паехала!..

***

Мястэчка было недалёка... Мястэчка было ў руіне... Дымела ратуша... Вуліцай ішлі якіясь маўклівыя, як бы неўзначай разбуджаныя з ложкаў, паўадзетыя, расчахраныя-раскудлачаныя немкі... Як ува сне!.. Паказаўся нейкі мужчына... Nadine прабавала сказаць па-нямецку, што «кіндэр», што «бомбы», што «кроў-рот-вушы», — як будзе «кроў»?.. Стары, як анямелы, пагладзіў Паўля па галоўцы, сказаў: — Фройляйн, бачыце як тут! Аптэку разбілі; там, дзе дагарае наша кірха — доктар жыў, а ці ён жывы — не ведаю! Ідзіце — мо ён лякарствы мае на кантузію якія!..

Надзін больш дагадалася, чымсьці зразумела са сказанага... Якась дайшла да кірхі... Ну, вось, гэты стары герр немец і ёсць, відна, «арцт»-доктар!.. — Не, не, фройляйн, арцт падаўся ў Гамбург, там дзясяткі тысяч раненых, столькі ж забітых! Гарыць наш чудовы Гамбург, відна — я не ведаю — няма там і дамоў, і кірхаў, порту зоўсім няма!.. Там вада ў Эльбе кіпела-гарэла-дымела!.. Фройляйн, я брат арцта, магу вам даць толькі вату, йадыну, ваду шпітальную-перакішаную-вадародную, марлю, масці дзе якія, што маем! Вазьміце! Давайце тут яму, малютку, вушкі, нос, роцік прапалошчам, бо што ж сёння больш?.. Вас і ў Гамбургу сёння ніхто не прыме! Там людзі выюць, без рук-без ног, сюды ч-у-т-н-а!.. Якія грошы, кінце, фройляйн, схавайце!.. Вы, вось, я-к-а-я? Польская, руская? — А хлопчык, нябось, нямецкі! Прывезлі, у роў, як сабачаня, не кінулі!.. Бачыце — столькі тут нашай нямецкай пабеды-перамогі, што Армагеддон Божы, вагонь з неба зышоў на нас!.. Каб нам апомніцца!.. Суд Страшны нам Госпадзь прыслаў, на апамятанне!.. Армагеддон, дзеванька, Справядлівасць Божа, Апакаліпсіс!..

***

Паўль заснуў у возіку, калі Nadine, увечары, уязджала на хутар... На спатканне бег стары Бухгольц!!! Асунуўся перад ёю на калені!.. Абняў яе за ногі!!! — Ты святая ў нас!!! — гаварыў ён. — Ich danke, danke, meine Nadine! — потым перайшоў на рускую мову. — К-а-к я тебя о-т-б-л-а-г-о-д-а-р-ю?!. Девонька ты моя! Он единственный теперь у меня, Пауль!! Курт у Осла — а жывы? І там неспакойна!.. І за Грэтхен, Шарлоту — як дзякаваць?!. За няшчасных?!. А што доктар, Надзін, з Паўлем?.. Ці мова ў яго вернецца?!.

— Гер Бухгольц, усе дактары ў Гамбургу! Туды я не дайшла, за далёка для нас! Пабачым заўтра-паслязаўтра! Мо гэта толькі пераляк?!. А вы-та як?..

— Самаход наш прапаў, фурманкі з коньмі засталіся, звяраткі ледзь не пашалелі-рвучыся!.. І я астаўся, і хлопцы ўсе! — ц-у-д-а-м н-я-б-е-с-н-ы-м!.. Ну, уложым малога спаць!..

***

Заўтра-паслязаўтра — і пасля-пасля-п-а-с-л-я! — ніхто з чужых, і з уладаў ніякіх! — як бы навакольны свет перастаў існаваць! — НЕ заглядаў на ферму!.. Наўкругі, у кожнага, была свая смерць, былі свае с-л-ё-з-ы!!! Гамбург увесь час дымеў, едкі дым слаўся навокал, даходзіў і сюды, пад лес, у Ружовы Агарод, у ваколіцу!..

— Трэба нам збірацца з работай нашай! — сказаў гаспадар. — Жыццё-жыццём, дзякуй вам, моладзь за ўсё! І за магілу гэту, і за кветкі!!!

***

Паўль ні на крок не адступаў ад Надзін!.. Яна яго мыла, карміла, адзявала, прамывала вушкі, мазала яго ранкі на галоўцы і на руках... Ён не гаварыў ні слова!!! І не шукаў ні маці, ні бабкі, не паказваў рукамі!!! Але — першы раз, у парніках, у-с-м-і-х-н-у-ў-с-я!!!

Парнікі, у большасці, ураваліся, загоны — што ў агародзе побач — трэба было раўняць, засыпаць ямы... Зноў у Гамбург паехалі самаход і Бухгольцавы фурманкі з агароднінай...

Надзін і Паўль... што д-а-л-е-й?!. А ці магло быць і-н-а-к-ш?!. А ш-т-о будзе, калі вайна кончыцца?!. Бо кончыцца ж, напэўна!!! Nadine трэба будзе ехаць — а з кім пакінуць Паўля?!. Але к-у-д-ы ёй е-х-а-ць, калі н-я-м-а ўжо да каго?!. І Тамашка ж дзесьці ё-с-ць! Няўжо яго можа НЕ быць?!.

(працяг будзе)

# Каля вытокаў Нурчыка

Позняя зімовая раніца, каля пятнаццаці хвілін да дзявятай. Выходжу з поезда на чыгуначным прыпынку Баравікі. Паўвека таму здзіўляў мяне той прыпынак у чыстым тады полі сваёй назвай — з чаго ў чыстым полі баравікі; лесу тады там не было. Тады затое ад поезда разбягалася прыстойная грамадка школьнай моладзі. Цяпер на пероне свежанькі снег, раблю ў ім першы таго дня след глыбінёю да паўлыткі.

Назва прыпынку была пайшла ад недалёкай, аддаленай каля кіламетра вёскі. Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага: „Borowiki, wieś. pow. brzeski, gub. grodz., gm. Rohacze, 59 wiorst od Brześcia, 99 dziesięcin". Кіруюся ў напрамку вёскі, ідучы па выдушанай у снезе каляіне ад кол легкавушкі. Бо ж нейкі кволы рух на прыпынку адбываецца: на супрацьлеглым да „майго" пероне сляды дзвюх асоб. Перад самой вёскай даходжу да шырэйшай дарогі, якая днём раней была расчышчана снегаачышчальнікам.

На адной з хат прыкмячаю салтысоўскую шыльду. Заходжу ў хату, солтысам тут адносна маладая жанчына, распытваю яе пра вёску. Зімуе тут звыш дваццаці душ. Адзін гаспадар трымае дзве каровы і каня, іншы — карову і двое свіней. У некаторых ёсць куры, іншых жывёл, апрача сабак і катоў, у вёсцы не трымаюць. Завітваюць туды тройчы ў тыдзень аўтакрамы. У панядзелак і сераду прывозяць хлеб, у чацвер таксама мясныя вырабы. З Баравікоў у школу ў Мілейчычы ходзіць толькі сын спадарыні солтыс.

Падаюся ў напрамку Левашоў, а адсюль, не заходзячы далей у вёску, кіруюся першай дарогай у Рагачы, цераз масток, на які бадай два гады таму чуў я ў Левашах нараканні. Выглядае на тое, што масток ужо наладжаны, хаця бакавых бар'ераў на ім няма. Уваходжу ў адну з вулачак Рагачоў, бо гэтая вёска складаецца ў прынцыпе з лабірынта вулачак. Заўважаю, што ў першыя тры хаты няма пратаптанага ў снезе следу. І пачынаю лічыць такія апусцелыя хаты. Пакуль дайшоў да крамы, налічыў іх шаснаццаць.

У краме тыповая карціна: прадавачка і чатырох мужчын. Распытваю пра тамашнюю дэмаграфію. У Рагачах і прылягаючых да іх Мікулічах пражывае каля трыццаці душ у кожнай. У школу ў Мілейчычы з наваколля Рагачоў ездзіць па чатыры школьнікі з Рагачоў і Мікуліч, па двое з Мядзвежык і Левашоў ды па адным з Баравікоў і Галубоўшчыны. У мясцовую школу, якой будынак недалёка крамы, ніхто з прысутных у краме мужчын не хадзіў. Найстарэйшы з іх вучыўся яшчэ ў старым школьным будынку, пасля будаваў новую школу, а малодшыя, відаць, вучыліся ў іншых мясцовасцях. Прадавачка ўспела пахадзіць толькі ў нулявы клас...

Школьны будынак, пабудаваны ў 1968 годзе, нядоўга служыў мясцовым дзецям. Дэмаграфічная дынаміка накіравала мясцовае насельніцтва ў больш перспектыўныя мясцовасці. А мураваны двухпавярховы школьны будынак руйнуюць атмасферныя працэсы. Пра яго ўласніцкі статус жыхары вёскі нічога дакладнага не ведаюць...

А калісь жа, у царскі час, Рагачы былі важным грамадскім цэнтрам, тут была гмінная ўправа. Слоўнік Каралеўства Польскага: „Rogacze, wieś nad Nurczykiem, pow. brzeski, gub. grodz., gm. Rogacze, 29 dm., 286 mk., 543 dz. włośc., 1647 prywat. (524 lasu, 600 nieuż.), 94 cerk., zarząd gm., cerkiew, szkółka. Gmina obejmuje 51 miejscowości, 299 dm. włośc., 3319 mk. włościan, uwłaszczonych na 5486 dz. Nadto w gm. jest 340 dz. cerk. i 13,167 własności pryw. We wsi nasyp pochodzący jakoby z czasów wojen szwedzkich". Нейкіх сто дваццаць гадоў таму, калі пісаўся Слоўнік, у Рагачах пражывала амаль трыста душ у амаль трыццаці хатах. Сёння хат у Рагачах значна больш і здаецца, што пустых іх тут больш, чым было ўсіх сто дваццаць гадоў таму. Лік насельніцтва паменшаў у дзесяць разоў; такое тут адбылося бежанства. Нечаму дзівавацца — са звыш паўтары тысячы прыватных дзесяцін, пра якія згадвае Слоўнік, каля сарака адсоткаў складалі няўгоддзі. І не дзіва,



Рака Нурчык каля Левашоў



Будынак рагачоўскай школы

што людзі адсюль кінуліся туды, дзе лепш, а тыя дзесяціны аблясілі, у іх ліку наваколле найбліжэйшага чыгуначнага прыпынку Баравікі. Дарэчы, на адрэзку між Баравікамі і Чаромхай відаць яшчэ не больш чым пальцаў на адной руцэ ўчасткаў поля, з якіх ужо таксама паднімаецца пасадка...

Мне часта прыходзіцца прыводзіць вытрымкі са Слоўніка Каралеўства Польскага, у якім часам можна знайсці даволі нечаканыя весткі. Вось адзін з артыкулаў: „Nurczyk, rzka, lewy dopływ Nurca. Ma swe źródła we wsi Rohacze w pow. bielskim gub. grodzieńskiej. Ubiegłszy 22 w. uchodzi o 2 w. od Bociek do Nurca, przy zbiegu 3 gubernii: grodzieńskiej, suwalskiej i wileńskiej". Апошнія каардынаты за трыдзевяць земель ад месца зліцця „малога" і „вялікага" Нурцоў. Аднак гэта заўважылі і аўтары Слоўніка, папраўляючыся ў іншым месцы: „Nurczyk, rzka w pow. bielskim gub. grodzieńskiej. Mylnie podano, że uchodzi przy zbiegu gub. grodzieńskiej, suwalskiej i wileńskiej". Але ўжо папраўкі, у якім павеце — Бельскім ці Берасцейскім — у сапраўднасці знаходзіліся ў той час Рагачы, у Слоўніку мне знайсці не ўдалося. Errare humanum est. А Rogacze ці Rohacze гэта ж нам тое самае...

Яшчэ ў краме спытаў я пра надаўняе свята Вадохрышча: дзе рагачоўскі бацюшка свянціў ваду. Бо ж цяпер вяртаецца звычай свянціць ваду на адкрытых вадаёмах і падумалася мне, што можа і ў Рагачах адбываецца гэта на працякаючым побач вёскі Нурчыку. Не, паінфармавала мяне прадавачка, на рэчцы свянцілі ваду даўно, можа было гэта дваццаць-трыццаць гадоў таму, а цяпер адбываецца гэта ў царкве.

— А не перад царквою, дзе стаіць даволі новае адмысловае збудаванне? — спытаў я.

— Там вада замерзла б, таму бацюшка прывёз у царкву *ваненку* з вадою і там, усярэдзіне, яе пасвянціў.

Перад царквою мужчына абмятаў царкоўныя прыступкі ад снегу. Пацікавіўся я, што за служба рыхтуецца ў царкве.

— Абрыдла ў хаце сядзець, то і вышаў крыху паварушыцца, — адказаў мужчына.

Перад царкву заехала пажарная машына са снегаачышчальным лемяшом.

— Гэта пажарнікі з Мілейчыч расчышчаюць дарогі, — паведаміў мне царкоўны стораж.

— А ці ў Рагачах ёсць пажарная каманда? — спытаў я.

— Няма, ужо з дзесяць гадоў будзе, як няма яе ў нас.

— А што ў вашым пажарным дэпо?

— *Стыпы* адбываюцца, калі трэба.

— І машыны ў вашым дэпо няма?

— Няма, толькі сталы і крэслы.

Перад мураванкай рагачоўскага пажарнага дэпо, у якім калісь працавала нейкі час крама, зараз новае збудаванне — MOR — Miejsce Obsługi Rowerzystów. Гэта элемент веласіпеднай трасы Green Velo, якая бярэ пачатак на Жулавах, паблізу ўліцця Віслы ў мора, а далей прабягае паблізу паўночнай і ўсходняй польскай граніцы аж да Пярэмышля, адкуль паварочвае ў напрамку цэнтра краіны і за Кельцамі канчаецца. Па Падляшскім ваяводстве траса праходзіць цераз Сувальска-Аўгустоўскае паазер'е, бобранскія балоты, Беласток, Белавежскую пушчу да Нямірава, дзе мела быць пабудавана адмысловая веласіпедная кладка. Не ведаю, ці тая кладка ўжо ёсць, бо калі я ўлетку цікавіўся ёю, каб па ёй прайсціся з Канстантынава ў Няміраў, то яе яшчэ не было, а працаўнікі Гміннай управы ў Мельніку неяк энігматычна гаварылі мне пра адтэрміноўку яе будовы.

Неяк так склалася, што далей пайшоў я менавіта па той велатрасе, якая даволі добра памечаная. Паколькі на дарозе ляжала шмат снегу — а снег той быў не так расчышчаны снегаачышчальнікамі, як раз'езджаны коламі машын — не ведаю, які там насціл, але мяркую, што жвіровы — сама добры для веласіпедных прагулак. Так я дабраўся да вёсак Нурэц і Нурчык. Слоўнік: „Nurzec, wś i fol. pow. brzeski gub. grodz., gm. Rohacze, 57 w. od Brześcia. Wś 316 dz.; fol. hr. Ronikierów, 951 dz.". І чарговая інфармацыя: „Nurczyk, wś i fol., pow. brzeski gub. grodz., gm. Rohacze, 60 w. od Brześcia. Wś 200 dz.; fol. Łowickich, 375 dz.".

У вёсцы Нурэц, якая ўжо ў Нурэцкай гміне, працуе геэсаўская крама, а ў ёй такая ж самая карціна, як і ў краме рагачоўскай: прадавачка і група мужчын. У вёсцы і будынак святліцы, перад якім пабудавана і стандартнае месца для веласіпедыстаў па праекце Green Velo. Вёска Нурэц зараз з'яўляецца нічым не адметнай вуліцоўкай, але калісь была яна даволі важнай мясцовасцю. Вытрымкі з Вікіпедыі: „Ziemie na których znajduje się Nurzec nadał król Kazimierz Jagiellończyk niejakiemu Turowi. Wtedy też powstały wsie oraz folwarki Zubacze, Litwinowicze, Klukowicze, Nurzec, Połowce, Łumna i Myszyce. W 1499 roku król Aleksander Jagiellończyk zatwierdził prawo posiadania dóbr przez wnuków Tura: Korniłę i Iwaszkę Andrzejewicza... W I połowie XVII w. Nurzec przeszedł na własność rodziny Kochlewskich, ponieważ w latach 1598-1632 jako właściciel Nurca i Litwinowicz wzmiankowany był sędzia brzeski Piotr Kochlewski herbu Prawdzic, syn Benedykta, działacz sejmowy i ariański, a także pisarz. Piotr Kochlewski miał w Nurcu barokową rezydencję, w której ufundował w 1631 roku zbór ariański, szkołę i przytułek dla starców... W pierwszej połowie XVIII wieku Nurzec przeszedł na własność hrabiowskiej rodziny Ronikierów herbu Gryf. W II połowie XVIII w. cześnik Michał Aleksander Ronikier zbudował modrzewiowy pałac z 60 pokojami i oranżerią. W pobliżu kazał wytyczyć krzyżowy kanał, aleję, altanę, mostek, drogi spacerowe... Podczas wojny 1920 roku spalony został pałac... Po wkroczeniu do Nurca w 1939 r. wojska radzieckie wycięły sad i część drzew ozdobnych. W 1944 r. w Nurcu dokonano parcelacji majątku Ronikierów, a na terenie dworu założono Spółdzielnię Produkcyjną w Tymiance, która funkcjonowała do lat 80. XX wieku".

Такім вось чынам незвычайная вёска Нурэц стала вёскай звычайнай. Яе назву атрымала пабудаваная ў пачатку мінулага стагоддзя станцыя на чыгуначнай лініі з Седльцаў у Полацк. Пасля каля станцыі была пабудавана сістэма вайсковых складоў. Вакол станцыі вырасла новая мясцовасць — Нурэц-Станцыя, якая з часам стала гмінным цэнтрам. І ў „старым" Нурцы недзе каля 1970 года быў пабудаваны чыгуначны прыпынак, які назвалі Новым Нурцом. Чыгуначныя будынкі зараз гібеюць, у Нурцы-Станцыі адкрыты толькі сенцы для пасажыраў аўтобусаў. Побач старой чыгуначнай станцыі і новая веластанцыя — Green Velo.

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Ці Беласток шматкультурны?

Літаратары, людзі навукі, аніматары культуры ды журналісты дыскутавалі падчас адмысловай канферэнцыі на тэму складанай тоеснасці і мінуўшчыны горада Беластока. Прычынай сустрэчы беластоцкай інтэлектуальнай эліты была кантраверсійная кніжка Марціна Концкага „Белая сіла, чорная памяць...", якая Беласток прадстаўляе аднабакова — як антысеміцкі і нацыяналістычны горад.

Арганізатарамі сустрэчы была Данута Завадзка, Катажына Нізёлэк і Катажына Савіцка з Фонду Універсітэта ў Беластоку ды Групы рэгіянальных даследаванняў. Дыскусію пачалі яны, прэзентуючы падрыхтаваныя раней крытычныя ў адносінах да рэпартажу тэзісы. У выдадзенай восенню кніжцы Концкі апісвае Падляшша і яго сталіцу як месца, у якім людзі не хочуць памятаць пра няслаўную мінуўшчыну, выкідваючы яе са сваёй свядомасці. Ігнаруюць яны асяроддзі і дзеянні неаназістаў ці сувязі мясцовай улады з бізнесам, затое на першым месцы ставіцца імі лозунг, часта незапоўнены зместам, шматкультурнага Беластока.



## Кніжка напісаная пад тэзіс?

Такія беластоцкія аўтарытэты, як сацыёлаг Анджэй Садоўскі ды дырэктар Падляшскага музея Анджэй Ляхоўскі, згодна сцвердзілі, што кніжка напісаная пад тэзіс. На іх думку аўтар такім чынам маніпулюе чытачом.

— Пасля прачытання кніжкі я сябе адчуваў як стары белавежскі зубр, якога вядуць пад дула вінтоўкі. Аднак найгоршае тое, што кніжка добра напісана, — сказаў Анджэй Ляхоўскі. — Розныя сітуацыі, якія нас абураюць, маюць і мелі месца ў Беластоку, але гэта не карцінка цэлага горада.

Варта дадаць, што дырэктар Падляшскага музея, так як і Анджэй Садоўскі, з'яўляюцца героямі паасобных раздзелаў рэпартажу Концкага.

— Концкі прыехаў тут з чорна-белым сцэнарыем і звычайна хацеў яго пацвердзіць, — сказаў Анджэй Садоўскі. — Няправільна прадставіў этнічны склад горада ў выглядзе катла, дзе ўсе з сабою сварацца. Гэтым часам тут усталяваўся этнічны лад, суіснаванне. Прачытаўшы кніжку, я меў адчуць сябе вінаватым. Я, як навуковец, раздзяляю гэтыя пытанні: праблема грамадская і праблема даследчая. Я, як навуковец, не мушу браць сцяг у рукі і нечага дамагацца.

## (Не) шматкультурны Беласток

Лозунг шматкультурнасці, які ўлады горада і ваяводства прамуюць навонкі, у кніжцы Концкага гэта толькі фасад. Аўтар рэпартажу ставіць сабе за мэту высвятленне, чаму ў горадзе Людвіка Заменгофа і месцы, дзе ўпершыню ў Польшчы заіснавала *in vitro*, у горадзе, які сапраўды ў мінулым быў шматкультурным, беластачане забываюцца аб сваіх каранях. Шукае таксама адказу на пытанне, чаму Беласток лічаць „польскай сталіцай расізму і неталерантнасці", адначасова апісвае некаторых з гэтых людзей, якія такі вобраз даюць гораду.

— Фактычна, няма сапраўднай шматкультурнасці, — адзначыў на сустрэчы прафесар Алег Латышонак. — Ёсць беларусы, якія тут жывуць, але больш напамінаюць імігрантаў, закрытых у сабе. Нават не па сваёй віне, паколькі беларусы вельмі добра інтэрферуюць з польскай культурай, але для палякаў яны не існуюць. Прытым беларусаў штораз менш. Толькі на фоне Польшчы гэтым можа Беласток вылучацца, бо іншых такіх гарадоў у Польшчы няма.

Арганізаткі канферэнцыі паставілі восем тэзісаў, якімі мелі абвергнуць напісанае пра Беласток у кніжцы. Спрабавалі даказаць, што рэпартаж Концкага

працяг ☞ 11




# http://ekapraekt.by

Экалагічныя праблемы спадарожнічаюць чалавецтву з таго моманту, калі прамысловасць стала адным з галоўных складнікаў эканомікі. Цяпер жа, у постындустрыяльным грамадстве, забруджванне глебы, паветра і вады з'яўляецца злачынствам, з якім змагаюцца не толькі праваахоўныя органы, але і шматлікія грамадскія арганізацыі. Таксама за чысціню навакольнага асяроддзя руляцца і палітычныя партыі, якія называюцца „зялёнымі". Адметна, што такія арганізацыі маюць большы ўплыў у тых краінах, якія дасягнулі найбольшага развіцця. Гэта акалічнасць даказвае, што сучаснае грамадства мусіць дбаць пра чысціню навокал, калі хоча мець развітую эканоміку, навуку, здаровых грамадзян.

Ні для каго не сакрэт, што людзі ў Беларусі шмат пакутавалі, а многія яшчэ пакутуюць ад хвароб, звязаных з Чарнобылем. Савецкая хімічная прамысловасць таксама рабіла сваю чорную справу з людскім здароўем. У сучасных умовах сітуацыя палепшылася, у многім дзякуючы заняпаду беларускай прамысловасці і, адпаведна, эканомікі. Цяпер, праўда, таксама стала модна казаць пра так званае ўстойлівае развіццё. І пра яго гавораць ужо і ўлады, і, натуральна, тыя ж грамадскія арганізацыі.

Адной з такіх арганізацый у Беларусі ёсць так званы „Экапраект", сайт якога месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://ekapraekt.by.** Калі цікаўны карыстальнік зазірне туды, то ўбачыць перад вачыма даволі просценькае выяўленне без нейкіх значных аздабленняў ці мультымедыйных разнастайнасцей.

Усе выйсці на рубрыкі сайта знаходзяцца ўверсе на зялёным фоне „шапкі", дзе месціцца назва арганізацыі. Галоўная ж старонка з'яўляецца, па сутнасці, стужкай навін, якія абнаўляюцца не надта часта. Праўда, гэта ў даным выпадку ніякі не недахоп, бо, сапраўды, экалогія гэта не тая сфера, дзе цікавыя падзеі адбываюцца штодня.

Нягледзячы на тое, што сайт мае толькі дзве моўныя версіі — беларускую і англійскую, беларуская ўтрымлівае і паведамленні па-руску. Адметна, што такая сітуацыя характэрна для многіх беларускіх сайтаў, дзе ў аднамоўнай версіі сустракаецца двухмоўе. І ўжо шмат дзе такая моўная версія вызначаецца адпаведна рэчаіснасці — „русский/беларуская".

Што ж тычыцца ўласна арганізацыі, то яе сябры называюць сябе тымі, хто імкнецца да рэальнага забеспячэння правоў чалавека на здароўе, доўгае і паўнавартаснае жыццё ў здаровым асяроддзі.

Цікава, што „Экапраект" называе сябе міжнароднай арганізацыяй, хаця пра дзейнасць яе структуры дзе-колечы, акрамя Беларусі, нічога не паведамляецца. Праўда, ёсць кантакты сяброў у Нідэрландах, Венгрыі і Ірландыі.

Мяркуючы па сайце, найбольшую актыўнасць „экапраектаўцы" развілі ў Магілёве і Віцебску. У прыватнасці для гэтых гарадоў складзены так званыя „зялёныя карты", дзе можна пабачыць абазначэнні зялёных зон, помнікаў архітэктуры і прыроды, рэлігійных і водных аб'ектаў. Варта адзначыць, што „Экапраект" сапраўды рэалізуе праекты ў Магілёве, прычым робіць гэта пры падтрымцы мясцовых улад. Таму мэта арганізацыі — садзейнічаць развіццю дыялогу і інтэграцыі ведаў паміж рознымі групамі зацікаўленых бакоў — з большага дасягаецца.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

# Дата з календара

Гісторык шматграннага таленту

## 130 гадоў з дня нараджэння Васіля Друшчыца



Беларускі гісторык Васіль Друшчыц нарадзіўся 27 студзеня (8 лютага па новым стылі) 1886 г. у вёсцы Блудзень Пружанскага павета (цяпер Першамайская Бярозаўскага раёна). У навуковай літаратуры і нават энцыклапедыях прозвішча вучонага шмат дзе напісана праз літару «ж». Насамрэч правільнае напісанне — менавіта Друшчыц. Пра гэта сведчаць розныя дакументы ў асабістай справе прафесара, якія напісаны яго рукой.

Паходзіў Друшчыц з сялянская сям'і, з маленства прагнуў ведаў. Малы Васілёк дзе мог даставаў кнігі і чытаў, чытаў. Асабліва вабілі яго народныя паданні, легенды, апавяданні пра мужных людзей, гераічнае мінулае. У 1901 г. Васіль скончыў Жыровіцкую духоўную вучэльню. Пазней навучаўся ў Віленскай духоўнай семінарыі, якую скончыў у 1907 г. Далей была вучоба ў знакамітым Тартускім універсітэце на гістарычным факультэце, які скончыў у 1911 г. Сярод выкладчыкаў юнага Друшчыца былі вядомыя гісторыкі Антон Ясінскі і Іван Лапо (праз 20 год — у 1928 г. — прафесар БДУ Ясінскі стане адным з першых акадэмікаў Беларускай акадэміі навук). Васіль Друшчыц бліскуча выявіў сябе на семінарскіх занятках. Менавіта ў студэнцкія гады ён пачаў працу па вывучэнні становішча сялян Беларусі ў XVI ст.

Далей Васіль Друшчыц цягам адзінаццаці гадоў выкладаў у розных установах і гарадах — у Вільні, Шаўлях, Рэчыцы, Бабруйску. На зямлі сучаснай Беларусі вярнуўся ў час Першай сусветнай вайны. Выкладаў гісторыю ў Рэчыцкай і Бабруйскай гімназіях, працаваў настаўнікам у мясцовасці Бацэвічы каля Бабруйска, чытаў лекцыі па гісторыі Беларусі на летніх настаўніцкіх курсах. Удзельнічаў у працы Беларускага культурна-асветнага таварыства. З 1922 г. быў выкладчыкам, а з 1927 г. — ужо прафесарам кафедры гісторыі БДУ. За пяць год шлях ад асістэнта да прафесара! Адначасна Друшчыц з 1924 г. быў правадзейным сябрам Інбелкульта. Васіль Друшчыц быў вельмі адукаваным навукоўцам, ведаў ажно шэсць моў.

З 1933 г. Друшчыц стаў супрацоўнікам Інстытута Беларускай акадэміі навук, прафесарам кафедры гісторыі народаў СССР Літаратурнага маскоўскага інстытута імя Герцана. Даследаваў беларускае сярэднявечча, магдэбургскае права ў беларускіх гарадах, гісторыю кнігадрукавання і беларускай мовы, гісторыю сялянства, гістарыяграфію філасофіі.

У разгар сталінскіх рэпрэсій Васіль Друшчыц арыштаваны НКВД 14 студзеня 1937 г. Засуджаны Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР да расстрэлу. У ноч на 20 снежня 1937 г. расстраляны ў ліку больш чым 200 чалавек беларускай інтэлігенцыі. Так закончыўся жыццёвы шлях гісторыка шматграннага таленту. Рэабілітаваны Друшчыц быў толькі ў ліпені 1958 г.

Пасля сябе гісторык пакінуў даволі багатую навуковую спадчыну. Да сёння не страціў сваёй каштоўнасці грунтоўны артыкул Друшчыца «Галоўныя моманты гісторыі беларускага народа», апублікаваны ў 1924 г. у зборніку «Беларусь». У гэтай працы значная ўвага надаецца асвятленню становішча беларускага сялянства ў XIV-XVII стст. Ёсць цікавыя артыкулы пра Мінск, Магілёў, Навагрудак. Навуковая спадчына вучонага паспяхова выкарыстоўваецца і гісторыкамі Літвы, паколькі ён даследаваў Вільню. На жаль, не ўсе працы навукоўца былі апублікаваны і дайшлі да нас.

Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

10 ☞працяг

не зусім згодны з існуючай рэчаіснасцю. З такім поглядам выступіла адна з дыскутантаў — Анна Данілевіч з Цэнтра імя Людвіка Заменгофа.

— Пагаджаюся з Концкім, што лозунг шматкультурнасці, калі гаворым пра Беласток, выкарыстоўваецца празмерна. Аднак шмат у горадзе ўзнікае ідэй, дзеянняў, якія прыдаюць змест гэтаму слову. Нанава шукаюць сучасных метадаў, каб размаўляць пра гэтую шматкультурнасць, каб разумець яе ў кантэксце сучаснага свету, у якім жывем, — сказала Анна Данілевіч.

Права да свайго бачання гісторыі, да перажывання, памяці або забыцця мае кожны. Кніжка таксама ставіць важнае пытанне: ці магчыма помніць без нянавісці? Можна, бо Концкі таксама дае станоўчыя прыклады людзей, якія бачаць сэнс у памяці і змагаюцца за гэта.

Памяць была чарговым пытаннем, якое разглядалася ў часе дыскусіі. Менавіта яе ўзровень у дадзенай супольнасці кшталтуе будучыню. На самой справе, як адзначыў праф. Алег Латышонак, трэба пачынаць ад школьніцтва.

— Ужо дваццаць гадоў таму мы распрацавалі праграму навучання рэгіянальнай гісторыі. Безупынна мяняюцца міністры, праекты... А рэгіянальнай гісторыі як не вучылі, так і не вучаць. Таму моладзь не тое, што не ведае пра яўрэяў, але і пра дзейнасць саміх палякаў тут, у Беластоку.

### Пачынаем размаўляць

Канферэнцыя самім беластачанам давала магчымасць голасу пра кніжку і медыйны шум вакол яе. На думку адной з арганізатарак сустрэчы Данұты Завадзкай з Універсітэта ў Беластоку, жывая палеміка кранала тэмы, пра якія раней не часта гаварылася.

— Галоўнай мэтай канферэнцыі была размова пра Беласток. Шмат асоб сказала, як яны бачаць гэтую шматкультурнасць, што можам рабіць, і што павінны зрабіць. Ці маем пагадзіцца са стэрэатыпамі замацаванымі людзьмі звонку, ці надалей працаваць над мінуўшчынай, тоеснасцю, культурай, нават калі нашы дзеянні не будуць заўважаныя сталічнымі элітамі, — сказала Данута Завадзка.

Трохгадзіннай сустрэчы прыслухоўвалася амаль дзвесце беластачан, якія таксама бралі голас у дыскусіі. Канферэнцыя „**Oto czym jesteśmy/jesteście — zrozumieć Białystok. Warsztaty z publicznej dyskusji**" на Універсітэце, якая прайшла 21 студзеня, сабрала гарачых прыхільнікаў кніжкі і заядлых яе ворагаў.

— Здаецца, што нягледзячы на розніцы поглядаў, можам размаўляць пра нешта супольнае — пра наш горад, — сказала на канец сустрэчы Данута Завадзка.

**Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ**

## Вечар калядак

Вечар калядак — цыклічная імпрэза ў календары культурных мерапрыемстваў Гміннага асяродка культуры ў Чаромсе. Сёлета праходзіла яна 23 студзеня. Канцэрт пачаўся ў 18 гадзін пры запоўненай зале. Паколькі ўсім не хапіла сядзячых месцаў, дык арганізатары вымушаны былі прыбавіць рад крэсел. Астатнія глядзелі канцэрт стоячы з боку пры сцэны або з калідора праз адкрытыя дзверы. У святочна-каляднай сустрэчы ўдзельнічалі войт Міхал Врублеўскі, старшыня Рады гміны Сяргей Смык і сакратар Гміннай управы Марыя Іванюк, а таксама святары. Каталіцкі касцёл прадстаўляў кс. Генрык Каліноўскі, а Праваслаўную царкву — а.а. Юры Пліс, Мікалай Беламызы і Аляксандр Юрчук з Чаромхі-Станцыі ды Рыгор Наўмовіч з Кузавы. Абавязкі гаспадара і арганізатара выконвала дырэктар ГАК Барбара Кузуб-Самасюк.



■ Пявунні з Чаромхі-Сяла



■ Калядоўшчыкі з «Гілочкі»

Рэпертуар сёлетняга канцэрта быў багаты і разнародны ды пачаўся з выступу духавога аркестра пад кіраўніцтвам Мікалая Гарадкевіча, нястомнага сейбіта культуры ў чаромхаўскім асяроддзі. Аркестр выканаў чатыры калядкі — па дзве каталіцкія і праваслаўныя: «**W żłobie leży**», «**Pójdźmy wszyscy do stajenki**», «Сумный святый вечар» і «Ангелы в небі». Багатую мастацкую частку прадставілі малечы з другога і трэцяга класаў пачатковай школы ў Чаромсе-Станцыі. Вучні III класа выканалі пастараль «**Aniołek**» і калядку «**Świeć gwiazdeczko**», затым другакласнікі калядкі «**Boże Narodzenie**», «**Hen wysoko**» і верш «У дзень Раждажства». У сольных нумарах выступілі юныя ўдзельнікі музычнага гуртка Міхал Ігнаньскі — «**Przybieżeli do Betlejem**», Малгажата Аляксяюк — «**Pójdźmy wszyscy do stajenki**», Гжэгаж Парфянюк — «Triumfy», Сара Тыханюк — «**Lulajże Jezuniu**» і Наталля Шымчак — «**Gdy śliczna Panna**». У ходзе канцэрта выступілі яшчэ царкоўныя харысты з Кузавы пад кіраўніцтвам Барбары Смык. Праспявалі яны калядкі «Во Віфлієме ниві новіна», «Ноч ціхая над Палесцінай» і «Нова радасць стала». Пявунні з Чаромхі-Сяла (сёлета адзначаюць 35-гадовы юбілей) прапелі «У місты Віфлієме» і «Радасць нам ся з'яўляе». Гітом канцэрта аказаўся выступ «Гілачкі» пад кіраўніцтвам Ірэны Вішанкі. Калектыў, у якім спявае дваццаць восем чалавек, у народных касцюмах і з гвяздай выканаў чатыры калядкі: «Сыдыт Мыкола», «Трые цары», «Добрый вечар Тобі», «На рыздвяно свята», затым павіншаваў гасцей з Калядамі і наступаючым Новым годам. Пасля выступу парафіяльны хор пры касцёле Найсвяцейшай Марыі Панны Каралевы Польшчы пад кіраўніцтвам Станіслава Матошкі з калядкамі «**Niechaj będzie głośno wszędzie**», «**Cud w Betlejem**», «**Nad Betlejem w ciemną noc**», «**Jakieś światło nad Betlejem**» і «**Jezusa narodzonego**». На завяршэнне выступу дырыжор Станіслаў Матошка павіншаваў ксяндза Генрыка Каліноўскага з імянінамі, а ў падарунку хор выканаў віншавальную песню, прысвечаную імянніку. Адмысловую песню са святочнымі віншаваннямі хор прысвяціў таксама шматлюднай публіцы. Канцэрт завяршаў царкоўны хор з Чаромхі-Станцыі пад кіраўніцтвам а. Мікалая Беламызага калядкамі «А мы люды подорожны», «Вставай, вставай Господару», «Бог природу» і «Торжествуйте, веселитесь».

Канцэрт доўжыўся амаль дзве гадзіны. Публіка разыходзілася поўная ўражанняў. Мерапрыемства лічу ўдалай імпрэзай. За гэта арганізатарам належыцца сардэчнае дзякуй.

**Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА**

## 31.01 — 06.02

(**22.03. — 20.04.**) **31.01.** можаш атрымаць важную інфармацыю або стаць адзін супраць іншых. У тваім жыцці пачынаецца ўздым. Чакаюцца новыя знаёмствы, у тым ліку і рамантычныя. Самы падыходны час выправіцца ў падарожжа. У панядзелак трэба будзе вырашыць пару канфліктаў. У аўторак чакае цябе ўзнагарода (або расплата) за добрыя справы і ўчынкі для іншых людзей. Не спакушайся прывабнымі прапановамі ў сераду. У чацвер магчымыя страты.

(**21.04. — 21.05.**) Нягледзячы на багацце ідэй і праектаў, не прысвячай нікога ў свае планы, бо цікуюць нядобразычліўцы. Адкладзі прыняцце сур'ёзных рашэнняў да будучага тыдня, усё добра ўзваж і абмяркуй. У панядзелак верагодныя канфлікты з блізкімі людзьмі: хутчэй за ўсё са старэйшымі. У аўторак заплаці рахункі, здзейсні старыя абяцанні і выслухай парады дасведчаных людзей.

(**22.05. — 22.06.**) 31.01. пераможаш канкурэнцыю. У панядзелак пазбягай вялікага фізічнага напружання, не прабуй рабіць больш, чым можаш, і казаць больш, чым ведаеш. Аўторак — дзень кантрастаў. Серада — псіхалагічна нестабільны дзень. Паспрабуй не зрывацца на блізкіх, не допускай разрастання сварак і канфліктаў, будзь памяркоўным. У чацвер не глядзі на знічкі, каб не прыцягнуць хваробы. У канцы тыдня магчымыя абвастрэнні хранічных захворванняў.

(**23.06. — 23.07.**) 31.01. магчымае разрастанне канфлікту. Накіруй намаганні на паляпшэнне свайго сацыяльнага становішча. Зручны час каб звярнуцца да эксперта ў атрымаць у іх дзелавую або персанальную параду. Калі знойдзеш ракавінку ўдалечыні ад мора і ракі — гэтая прымета азначае ўдалы шлюб і шчаслівае сямейнае жыццё. Аўторак: перад тым як выйсці з хаты, правер свой абутак — у дарозе можа табе адарвацца падэшва.

(**24.07. — 23.08.**) Усе падзеі, якія будуць адбывацца з табою, падвергні дбайнаму аналізу. Разгледзь сітуацыю з усіх бакоў, абдумай усе магчымыя шляхі і прымі правільнае рашэнне, можа трэба будзе цалкам змяніць сваё становішча. Не дазваляй пачуццям мяшацца ў прафесійную дзейнасць. Увесь тыдзень рызыка звязаная з агнём і электрычнасцю.

(**24.08. — 23.09.**) 31.01. — шчасце і здзяйсненне мары. Пачуцці возьмуць верх над логікай. Маеш магчымасці і сілы супрацьстаяць негатыўным момантам. Будзь асцярожны і не прымай ніякіх падарункаў і дароў ад людзей з магчымай таемнай думкай. Панядзелак неспрыяльны для калектыўных заняткаў або сумесных мерапрыемстваў, але добры для індывідуальнай творчасці. У першую палову аўторка ажыццявіш нейкія даўнія планы.

(**24.09. — 23.10.**) Калі ў панядзелак завяжаш больш за два вузлы, гэта абяцае табе тры гады няўдач і бясплённых дзеянняў. Каб разбурыць заклён гэтай прыкметы, трэба завязаць яшчэ адзін вузел на чорнай ніткі або вяроўцы і спаліць гэты вузел у полымі чырвонай свечкі. Аўторак — прыдатны час знайсці свае схаваныя магчымасці. Прыслухайся да сваёй інтуіцыі: яна спрабуе паведаміць табе нешта важнае.

(**24.10. — 22.11.**) Магчымыя сумесныя праекты з тваімі былымі канкурэнтамі. Выкарыстоўвай па максімуму ўсе свае рэзервы і сілы, каб атрымаць тое, што табе наканавана самім лёсам. Інвестыцыі, уласнасць, нерухомасць, страхаванне і падатковыя зніжкі прынясуць прыбытак. Не сустракайся з таемным палюбоўніцай або палюбоўнікам у аўторак! У сераду схадзі да лекара.

(**23.11. — 22.12.**) Шмат спраў і праблем, усе яны ў канчатковым выніку пойдуць табе на карысць. Праўда, трэба будзе прыняць дапамогу з боку. Не бойся папрасіць дапамогі ва ўплывовых сяброў і сваякоў. Грамадскія кантакты будуць каштоўнымі для будучых дзелавых аперацый. Калі натрэш мазоль раззношаным абуткам, гэта прадвесціць табе цяжкі шлях да поспеху.

(**23.12. — 20.01.**) Добры час для атрымання новых ведаў і набыцця новага вопыту: наведай якія-небудзь курсы і семінары. Зможаш заклaсці добрую аснову для сваіх будучых фінансавых поспехаў. Новыя сувязі з дзелавымі партнёрамі акажуцца трывалымі. Тыдзень вельмі ўдалы для шукаючых працы.

(**21.01. — 19.02.**) 31.01. магчымыя праблемы на працы. Твая нерашучасць у якой-небудзь справе можа затармазіць твой поспех. Не перабольшвай сваіх праблем. Усё з часам вырашыцца само сабой, нічога не страціш, не хваліся. Зрабі ў сваім доме перастаноўку мэблі.

(**20.02. — 21.03.**) Прыйшоў час пачаць рэалізоўваць свае старыя планы. Цяпер будуць вырашацца пытанні тваёй кар'еры, выкажы ініцыятыву. Любое дзелавое супрацоўніцтва будзе вельмі выгадным. Чакаюць цябе новыя сустрэчы і раманы, магчыма, што і службовыя. У панядзелак Вышэйшыя сілы дапамогуць табе пераадолець шматлікія перашкоды.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

## Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. авіяцыйны туз = 19 _ 11 _;
2. гарадок на паўднёвым захадзе Браслаўскага раёна = 1 _ 22 _ 13 _ 8 _ 4 _;
3. змяя, гадзюка, агідны чалавек = 18 _ 9 _ 20 _;
4. прыцягненне для адбывання вайсковай службы = 15 _ 16 _ 17 _ 21 _ 14 _ 10 _;
5. паслухмяная дзіця = 6 _ 7 _ 24 _ 25 _;
6. здольнасць адчування, здагадвання = 3 _ 2 _ 5 _ 23 _ 12 _.

(ш)

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| | | | | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 2 нумара**

Іранец, Шчара, Гайнаўка, кіназдымка, недасол, Крк, сюіта, тэст, крывінка, Шагал, Бона.

Рашэнне: **Не наракай на люстэрка, калі нос крывы**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 300 egz.

# У палескай глыбінцы (31)




Помнік змагару ў Мілячы

Палескі пастух — гэта больш чым пастух! Нідзе ў свеце я не сустрэла столькі рамантыкі і прэстыжу, колькі палешукі адводзяць прафесіі пастуха. Гэтая праца прамаўляла яшчэ як сінонім дэмакратыі. Тут кожны вымушаны адбыць сваю пастухоўскую чаргу, не важна з якога ты сяла і роду і хто па прафесіі — просты мужык, гандляр ці важны дырэктар.

На краю сяла Міляч, дзе роўным каналам плыве скарацечная рэчка Брахліўка, пасвіліся сотні чорна-белых кароў галандска-фрызійскай пароды. Гэта быў адзін з пяці статкаў кароў, якіх гадавалі ў сяле.

— У нас такая звычка, — тлумачыць мне Аляксандр Сцяпанавіч, — што за тры каровы трэба адпасці адзін дзень. Мая чарга выпала ў мінулы панядзелак.

— Вы самі адправіліся пасвіць кароў? — спытала я з недаверам.

— А як жа, сам! — здзівіўся ў сваю чаргу спадар Аляксандр. І дадаў з цёплай усмешкай: — Я хоць там добра адпачыў, паслухаў як жаўранкі пяюць...

Мой субяседнік Аляксандр Сцяпанавіч Сала не абы-хто ў Мілячы. Ён намеснік дырэктара школы-адзінаццацігодкі. Пад яго кіраўніцтвам працавала паўсотні настаўнікаў, якія навучалі каля трохсот дзяцей. Нягледзячы на сваю грамадскую пазіцыю і адукаванасць, з падобнай свабодай дырэктар распавёў пра землеробчыя заняткі. На сваім агародзе пасадзіў сорак сотак бульбы, пасеяў буракі і гарбузы на пашу для каровак. Цяпер чакае дажджу, каб усё роўненька ўзышло. Ці любіць грэбціся ў зямлі? Гэта хутчэй жыццёвая неабходнасць, гарантыя, што будзе добрая яда на зіму. Бо ж свая бульба найсмачнейшая...

Гэта ўсё гаварыў мне стройны, дагледжаны, у модным касцюме мужчына. Я слухала і ўяўляла як сваім глыбокім басам запыняе ён непаслухмяных красуль воклічам: *куды лезеш, рабая!*

У словах дырэктара я не дашукалася ні грама комплексу непаўнацэннасці.

* * *

Палескія пасёлкі ўжо здалёк можна пазнаць па адным характэрным вобразе. На краю мясцін заўсёды пасвіцца вялізны статак кароў. Сам вобраз прамаўляе першабытнай дзікасцю. Хоць тутэйшыя каровы адной галандска-фрызійскай пароды, пабачанае не падыходзіць да прамысловай гадоўлі. Мяне што і раз здзіўляла сувязь паміж людзьмі і жывёлай. Тут адчувалася нейкая камунікацыя.

Не магу прыгадаць узбуранага пастуха з размашыстай пугай. Людзі і жывёла праяўлялі спакой і падобную задаволенасць. Быццам хапіла адно слова, каб карова не палезла ў шкоду. Часта ля статкаў кароў выстойвала вясёлая кампанія або бацькі з дзеткамі. У час ліпеньскай жары каровы ад рання да вечара моклі ў крышталёва-халодных хвалях азёраў. Для іх быў адведзены асобны пляж... Чалавек глядзеў і зайздросціў жывёліне!

У апошнія гады прафесія пастуха стала прыносіць немалы заробак.

— Нашы мужчыны ездзяць працаваць у якасці пастухоў у Беларусь, — кажа настаўнік Сяргей Якубовіч, — і яны зарабляюць шмат разоў больш чым у мясцовым калгасе.

— А колькі зарабляе пастух у мясцовым калгасе?

— Тысячу грывень у месяц, — паясняе Сяргей. — Гэта ў восем разоў менш чым атрымае ў Беларусі. Там можна зарабіць дзевяць тысяч грывень. Па нашых мерках, гэта канкрэтныя грошы, чатырыста долараў на руку!

Сяргей як малады настаўнік зарабляў на дзвесце грывень больш за мясцовага пастуха. Разам каля пяцідзесяці долараў. Аднак з яго боку я не пачула ніводнага слова наракання на безграшоўе. Не мяшала яму і тая акалічнасць, што на сваю працу ён мусіў даязджаць на маршрутцы, а дарога ў адзін бок займала больш за гадзіну.

З Мілячы найпрасцей дабрацца ў Беларусь. Каб апынуцца за мяжой суседняй дзяржавы, хопіць дзесяці хвілін язды на цягніку. Якраз праз сяло ідзе чыгуначны пуць. Многія мілячанцы знаходзяць працу ўжо ў суседняй Століншчыне.

— Там абязлюджаны сёлы і няма каму



Міляч: традыцыйная забудова



працаваць у калгасах. Дык нашы карыстаюцца магчымасцю. Адны працуюць у калгасе, іншыя падзарабляюць у цяпліцах пры вырошчванні памідораў і гуркоў. Там добрая зарплата і добрыя людзі. Мой бацька таксама падзарабляў у Беларусі. Ён пастух, — кажа Сяргей.

* * *

— А ці ў даваенны час вашы людзі ездзілі ў Столін? — пытаю ў настаўніка. Мне прыгадалася неахвота мясцовых кавалераў ездзіць па жонак у вёскі, распалажаныя па-за межамі іхняга балота.

— Дык не толькі ў даваенны час! — кажа Сяргей. — Цесная сувязь трывала ажно па 1991 год, пакуль не ўзнікла незалежная Украіна. Калі трэба было нешта купіць, усе ехалі ў Столін. За савецкім часам ехалі ў той бок вучыцца. Пасля вучобы многія стараліся ўладкавацца на працу, заставаліся жыць у Століне або Пінску.

Паводле майго субяседніка, гэтая адкрытасць мела выключна практычны характар.

— Вашы мілячанцы лічаць сябе ўкраінцамі ці можа этнічнай меншасцю, палешукамі? — паставіла я менш практычнае пытанне.

— Магу сказаць, што сто адсоткаў нашых людзей лічаць сябе ўкраінцамі, — кажа настаўнік. — Мы ўкраінцы і адначасова *полешчукі*.

— А тыя палешукі, што жывуць па беларускім баку, — цягнула я, — хто яны для вас? Ці адчуваеце з імі сувязь па нацыянальнай лініі?

— Такога няма, — кажа гісторык.

— Для нас яны беларусы, хоць адначасова і *полешчукі*. Але няма ў нас супрацоўніцтва. Для палешука цэлы свет — гэта яго вёска. Ды сам тэрмін „паляшук" штучны. Мясцовыя лічаць сябе мілячанцамі, перабродцамі, удрычанамі...

Мой вопыт паказаў яшчэ, што ўкраінскія палешукі вызначалі сваю нацыянальнасць паводле ўзросту. Дакладна, найстарэйшыя зусім не разумеюць пытання. На пытанне пра нацыянальнасць заяўляюць: мы — тутэйшы. Яны не шкадавалі крытычных слоў у бок Майдану і прэзідэнта. Людзі сярэдняга ўзросту называлі сябе ўкраінцамі і адначасова заядла крытыкавалі падзеі ў краіне. На пытанне пра вайну чуўся адзін, дыпламатычны адказ: *Там непанятна, хто з кім воює!* Моладзь у сваю чаргу адназначна адстойвала незалежнасць Украіны. Многія хлопцы заяўлялі гатоўнасць пайсці на фронт.

— З нашага сяла пяць чалавек ваюе на фронце, — кажа Сяргей Якубовіч. — Адзін хлопец загінуў на вайне. Калі праязджаў жалобны катафалк з целам, усе жыхары выйшлі развітацца. Людзі станавіліся на калені, маліліся, спявалі патрыятычныя песні. Ці апошні звычай супадаў з мясцовым пахавальным абрадам? Хутчэй не, ён прыйшоў „з Украіны", праз тэлебачанне. Такія патрыятычныя пахаванні адбываліся на Валыні і Тарнопальшчыне.

* * *

Калі за шклянкай мінералкі я адпачывала на лавачцы ля вясковага магазіна, на пляц закаціла на роварах бадзёрая брыгада пастухоў. Усе як адзін муж былі апрануты ў камуфляжныя апранахі тыпу армія. Яны грымнулі аб плот выслужанымі веласіпедамі „Украіна", набылі тры пакеты віна „Кагор" і расселіся за столікам якраз насупраць маёй лавачкі. Нехта з іх адразу знюхаў свежую кроў. Ён прапанаваў выпіць шклянку віна за знаёмства. Слова „Польшча" наклікала ўспаміны. Гэта было яшчэ ў часы Савецкага Саюза. Майго субяседніка направілі служыць у армію ў Кракаў. Па сённяшні дзень, калі закрые вочы, *бачыць* як на Марыяцкай вежы трубачы іграюць сігнал. Або як праходжваюцца на высокіх абцасах прыгажуні па тратуары. Яны пранізліва грукаталі абцасамі ў тратуар. Той стукат-грукат будзіў яго сярод ночы і не пакідаў тужыць па родным, лясным кутку...

Я ўзрушылася інтымным і адначасова паэтычным прызнаннем. Каб схаваць засаромленыя вочы, я зірнула ўніз, а больш дакладна, на боты былога жаўнера-рамантыка. Там замест вайсковых чаравікаў выстойвала забалочаная пара чобатаў-гумоўцаў.

Мой апавядальнік не згубіў рэзону. Ён красамоўна памаўчаў, а пасля, гледзячы дзесяці ў поле, паўшэптам выказаў у мой бок камплімент.

— *Як добрэ, што ты нэ блондзінка!*

Нідзе раней не чула я такой зграбнай, шматзначнай фразы.

(працяг будзе)

**Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960